ISSN 0320-7579
№ 5/2015(1044)

# Бярозка


Ганарыцца сваім

# №5

**ПРЭМ'ЕРА! АПОВЕСЦЬ З ПРЫЗНАННЕМ І ЗАГАДКАЙ**
АД ПІСЬМЕННІКА АЛЕГА ЖДАНА

## У ЦЗЯНЬШЫЦЗЫ ЯК У ШАШКІ

Чым забавіцца на перапынку?

## КАХАННЕ — ПАВУЧАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ

Падслуханае ў адной настаўніцкай

## ПАДАРОЖЖА АЎТАSTOPАМ

Як? Куды? Навошта?

*Стыль*

# BEYONCE

*і дзелавы адначасова*

Малюнак Аляксандры Камянец

# Аловак супраць друкарскай машынкі

***Літаратурны музей Петруся Броўкі прадстаўляе***



Рыжскі радыёпрыёмнік «Мир» — экспанат музея.



На гэтым драўляным падносе пісьменніку прыносілі важную карэспандэнцыю. Канверты ён разразаў нажом (костка, дрэва).



Нямецкая друкарская машынка Erika. Паэт у асноўным пісаў свае творы алоўкам, аднак некаторыя часам даводзілася друкаваць на машынцы. У гэтым яму дапамагала жонка Алена Міхайлаўна. Невыпадкова Пятрусь прысвяціў сваёй каханай лірычны зборнік вершаў «Ты — мая пчолка».



Фрагмент рабочага кабінета, дзе Пятрусь Броўка праводзіў дзелавыя сустрэчы. Часцей за ўсіх бываў тут Пятро Глебка. Яны сябравалі з пачатку 1930 гадоў, калі вучыліся ў БДУ. Бываў тут Міхаіл Ісакоўскі, перакладчык твораў Броўкі на рускую мову.



Жонка Алена Міхайлаўна, сын Юрый, Пятрусь Броўка.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вуліца Карла Маркса, 30***

# І шчасце заўсёды ў жыцці тваім будзе!




## ЗЯМЛЮ НАВЕДАЛА ВЯСНА!

Аднойчы выйдзеш ты за дзверы
І ўбачыш дзіўнае святло.
Акінеш поглядам свет белы:
Усё ранейшае сплыло.

Такая лёгкасць пры дыханні,
Нібы ляціш уверх, да зор.
Аблокаў мяккіх хваляванні
Карункавы нясуць узор.

Тваю душу пачуцці грэюць,
А сэрца б'ецца — не стрымаць!
І ты нарэшце разумееш:
Зямлю наведала ВЯСНА!

*Алег ЗДАНЕВІЧ,*
*11 клас, ліцэй № 1, Мінск*

## ВЯСНА ЦЯБЕ АБУДЗІЦЬ!

Ні мэт, ні жаданняў ніякіх не маеш,
Сумуеш, губляеш, а часам — згараеш,
Нібыта тэатра акцёр драматычны,
Што вобраз стварае самотна-трагічны…

Спыніся! Зірні: колькі фарбаў навокал!
Пусці водар свежы ў адкрытыя вокны!
Вясны цёплы подых цябе хай абудзіць,
І шчасце заўсёды ў жыцці тваім будзе!

*Марыя ГАЛОЖЫНА,*
*10 клас, ліцэй № 1, Мінск*



Мастачка Алеся ГАЛОТА

## БЯРОЗКА

Тонкія галінкі, першыя лісточкі,
Завушніцы доўгія штосьці шапацяць.
Позіркам уважлівым з берага высокага
У люстэрка возера пільна так глядзяць.

Зялёная хусціначка, сукеначка бялюткая,
А зверху ў светлых воблаках блакітны небакрай…
Сок па кары сцякае, як слязіначка чысцюткая,
Каб непаўторным водарам напоўніць родны
край.

*Ганна ПРАКАПОВІЧ,*
*6 клас, гімназія № 10, Мінск*

## ГАВАРУ Я ВАМ ПРАЎДЗІВА

Беларусь — мая Радзіма!
Гавару я вам праўдзіва.
Я люблю яе за тое,
Што яна — як кветка ў полі!
Кожны сонечны дзянёк
Ззяе, быццам васілёк!

*Сафія БАБОК,*
*6 клас, гімназія № 35, Мінск*

## БЕЛАРУСКАЕ ПАЛЕССЕ

Беларускае Палессе —
Край блакітных берагоў,
Беларускіх родных песняў
І зялёных мурагоў.

Край спакою і надзеі
На шчаслівае жыццё.
Край, дзе продкі ўсё паспелі
Перад шляхам у небыццё.

Край прыгожых, звонкіх рэчак,
Неабсяжных пушч, бароў…
Тут няма ніколі спрэчак
Між мясцовых жыхароў.

Тут заўсёды вельмі ўтульна,
На душы сапраўдны баль,
Тут не будзе людзям сумна
Між імклівых вольных хваль.

Сэрца радуецца міру,
Ну а ногі йдуць у пляс!
Тут жыццё бурліць у віры,
Тут усё чакае вас!

*Аляксандра ГУЦУ,*
*6 клас, гімназія № 16, Мінск*

# Насустрач неверагодным прыгодам

Мастачка Алеся ГАЛОТА

## Вясна

Доўга цягнулася зіма. Усім ужо надакучылі холад і галалёд. Людзі, жывёлы і нават расліны з нецярпеннем чакалі вясны.

І вось яна нарэшце прыйшла. Але прыйшла не адна, а з цёплым сонейкам, якое адразу абагрэла ўсё навокал. Ад яркага святла пачалі прачынацца звяры пасля зімовай спячкі: вожыкі, барсукі, а вось і незадаволены мядзведзь пакінуў цёмную сваю бярлогу. Але калі спыніўся пад сонечнымі промнямі — адразу ж палагоднеў, бо зразумеў, што прыйшла вясна.

Пад цёплымі промнямі хутка сышоў сняжок, і вось ужо можна пабачыць на ўзлесках ды лясных палянках блакітныя пралескі і фіялетавую сон-траву. А дрэвы апрануліся ў яркае вясновае адзенне, і ўсім яно так падабаецца! Асабліва бярозцы, якая начапіла на сябе, апроч усяго іншага, яшчэ і доўгія залацістыя завушніцы. А па блакітным небе ляцяць птушкі з выраю, і хутка мы пачуем іх першыя вясновыя спевы.

Усе былі задаволены прыходам вясны і таму звяры, птушкі, дрэвы і іншыя расліны вырашылі пайсці падзякаваць Вясне за цудоўныя падарункі. Сустрэлі яны Вясну на невялічкай паляне, і яна паўстала перад імі ў выглядзе маладзенькай дзяўчыны ў сукенцы з беларускім арнаментам. У яе доўгія русыя косы былі ўплецены кветкі, на галаве красаваўся вянок, а на плячах сядзелі тры салаўі і тры ластаўкі.

Вясна хадзіла па паляне ды спявала:

Вясна прыйшла, Зіма ўцякла!
Сонейка, шчыра свяці,
Ды ад спячкі ўсіх будзі!
Яшчэ мне памочнік —
Шчыры, добры дождж ык.
Ну, а ты, лясны народ,
Станавіся ў карагод!

Усе падзякавалі Вясне і ёй было прыемна, што ўсё, што яна зрабіла, так падабаецца лясным жыхарам.

*Аліса ПЕРАВОЗНІКАВА,*
*6 клас, гімназія № 10, Мінск*

# Мая любімая пара года

Кожная пара года асабліва прыгожая, але вясна, мне так здаецца, найпрыгажэйшая. З прыходам вясны быццам зараджаецца новае жыццё. Рэчкі вызваляюцца з-пад халоднага лёду, што ўкрываў іх усю зіму. Дрэвы прачынаюцца і распускаюцца першыя зялёныя лісточкі. Птушкі здалёк прылятаюць на родную зямлю і звонкімі галасамі абуджаюць яе. Сонейка таксама прачынаецца і пачынае з новай сілай саграваць зямлю. Зімняе халоднае надор'е змяняецца на цёплае, ласкавае, вясновае. Ды і людзі змяняюцца: апранаюць больш лёгкае адзенне і нават усміхаюцца часцей.

Здавалася, увесь свет чакаў вясну, каб зноў адчуць цеплыню, ласкавасць, прыгажосць роднай прыроды.

Вось за гэта я так люблю вясну.

***Алена БАЛЮК,***
***6 клас, гімназія № 10, Мінск***

# Калі ўсё ажывае

Ледзь з халоднай далечы прыйдзе сонца, падорыць ваколіцам цёплы прамень, і са стрэхаў хат першыя кроплі сарвуцца, рэхам заб'ецца сэрца Вясны ў палацы пустым.

Няспынна па венах яе разальюцца рэкі, што разбілі аковы свае. Выйдзе Вясна з палаца свайго зімовага, самотнага, скіне мантыю белую, ступіць басанож на халодную стылую зямлю…

І зменіцца покрыва зямное з люстра крыг і апошніх снегавых гурбін на свежы дыван з першых кветак. І ўдыхне Вясна крыху марозны яшчэ пах паветра і з усмешкай азірнецца на былы свой палац. З сонцам зайграе, старога мядзведзя крыху паварушыць, смеючыся, нібы жарт з ім сатварыць захацела.

Са смехам, у лад ёй, птушкі зашчабечуць.

Узыдзе Вясна на пагорак, а пасля да долу спусціцца з усмешкай на твары, дух да ладу свой прывядзе.

А навокал ціхенька, нібы крадучыся, усё ажывае.

***Аляксандр РАДЗІХОЎСКІ,***
***9 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён***

# Папяровы караблік

У гэты дзень шэрая постаць Зімы некуды знікла. З-за хмар паказалася яскравае сонца, і яго празрыста-залатыя промні напоўнілі марознае свежае паветра, весела разбегліся па пухкіх белых гурбах, прымусілі тыя асляпляльна заззяць.

З ледзяшоў адна за адной пачалі скочвацца кропелькі, збірацца разам, выцякаць бадзёрымі раўчукамі ў бязмежную далеч, праслізгваючы паміж снегавымі гурбамі, напаўняючы наваколле асаблівым вясновым водарам.



Маленькі хлопчык весела пераскокваў праз звілістыя стужкі ручайкоў і залівіста смяяўся. Ён трымаў у руцэ невялічкі папяровы караблік, якому, па задумцы хлопчыка, хутка давядзецца ўбачыць цэлы свет.

Выбраўшы самую шырокую і вабную ручаінку, хлопчык падышоў бліжэй, асцярожна апусціў караблік на ваду. Той імгненна падхапілі хуткія струменьчыкі і шпарка панеслі ў невядомую далячынь.

Нейкі час хлопчык, смеючыся, бег за караблікам і радасна ўскрыкваў, калі той нечакана спрытна паварочваў, змагаючыся з хвалямі, як сапраўдны. Потым караблік пачаў плыць хутчэй, а хлопчык спыніўся і, усміхаючыся, памахаў караблiку рукой.

А той імчаў па жвавых хвалях у сонечным вясновым паветры, кранаў папяровымі борцікамі снежныя берагі, ляцеў насустрач сваім неверагодным прыгодам…

Дзесьці з вышыні пачуўся радасны спеў, прамень сонца неяк па-асабліваму прабег па гурбах, і тыя яскрава ўспыхнулі ў адказ.

Звон капяжу зліваўся з птушыным шчабятаннем, што рабіла гэтую светлую вясновую раніцу яшчэ больш светлай і вясновай. І так лёгка дыхалася.

Смяяўся маленькі хлопчык, бадзёра спяшаўся насустрач нязведанаму папяровы караблік, весела ценькалі сінічкі.

Раніцу зменіць дзень, за ім прыйдзе ноч. Але гэты самы першы подых вясны назаўсёды застанецца ў памяці водарам талага снегу, музыкай ледзяшоў і смакам прыгод.

***Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,***
***11 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён***

# Дапамога птушкам

Прыйшла вясна. Прыляцелі птушкі з выраю. Прыемна слухаць птушыны гоман.

Дзеці вырашылі зрабіць шпакоўні. Яны пайшлі ў майстэрню і пачалі ладзіць хаткі для птушак. Шпарка кіпіць работа: хто дошкі пілуе, хто малатком цвікі б'е, хто адпілаваныя дэталі падае… Вось і атрымаліся цудоўныя шпакоўні.

Дзеці ўзялі лесвіцу і прымацавалі птушыныя домікі да дрэў як мага вышэй.

Хутка знайшлі шпакі свае новыя кватэры. Сядзяць яны на галінках, песенькі спяваюць, на дзяцей паглядаюць з падзякай за новае жытло. А юныя майстры ўнізе каля дрэва стаяць і радуюцца, што дапамаглі птушкам.

***Платон САЕВІЧ,***
***4 клас, гімназія № 29, Мінск***

***Дружа! Бачыш, што атрымліваецца? Усе тэксты «Вераска» спрэс пра вясну, і гэта ўжо другі нумар запар! І ледзь не ў кожным — пра ручаі, ледзяшы і мядзведзя. Бо пра гэта пішацца ў падручніках па літаратуры і ў практыкаваннях па мове, ці не так? А што калі паспрабаваць пісаць іначай і пра іншае?***

***Вось табе нашы прапановы:***

- ***прыдумай казку пра кухонную фортку,***
- ***апішы пятнічныя прыгоды свайго партфеля,***
- ***распавядзі пра свае пачуцці да школьнай брамкі,***
- ***сачыні магічны аповед пра беларускі Хогвардс,***

***За стараннасць цябе чакае падарунак, які не расчаруе!***

Заяўка на Парнас

Мастачка Алеся ГАЛОТА

# Сакрэт

Андрэйку пашанцавала: ён нарадзіўся ў вельмі прыгожай вёсцы. Слава пра яе разнеслася далёка за межы раёна, бо каля вёскі знаходзіцца вялікае возера, і сюды прыязджаюць адпачываць нават гараджане. Уяўляеце, якое раздолле мясцовым дзецям?!

А побач яшчэ і лес. Сюды Андрэйка з дзядулем ходзяць збіраць ягады, грыбы і арэхі. У іх нават ёсць там любімае месца: палянка з двума ўзгорачкамі, парослымі мохам, дзе заўсёды цішыня.

На гэтай паляне Андрэйка з дзядулем перш-наперш вымаюць з торбачкі, пашытай бабуляй, свае прыпасы і падсілкоўваюцца. Пасля нейкі час сядзяць моўчкі, а потым дзядуля пачынае расказваць. Пра што? Ды кожны раз ён знаходзіць новую гісторыю, якую Андрэйка слухае з вялікай увагай.

Сёння дзядуля раптам загаварыў пра лясное возера, што непадалёк.

— Дзядуля, а чаму яго называюць Святым? — перабіў Андрэйка. — Адкуль такая назва?

— Вялікую тайну хавае ў сабе гэтае возера, — памаўчаўшы крыху, адказаў дзядуля. — Кажуць, што на ягоным месцы калісьці стаяла царква, і людзі з суседніх вёсак прыходзілі туды маліцца. Аднойчы прыйшлі і на месцы царквы ўбачылі возера. Ты ж яго бачыў?

— Бачыў! — кіўнуў галавой Андрэйка. — Вакол — дрэвы і кусты. Яны адлюстроўваюцца ў вадзе, і возера нібыта ў зялёным вянку. Так прыгожа!

— Прыгожа! — згадзіўся дзядуля. — Але і страшнавата каля яго робіцца. Кажуць, нехта нават чуў, як з возера даносіўся звон. І дна ў ім, як быццам, няма. Бацькі заўсёды папярэджваюць дзяцей, якія ідуць па ягады за Святое возера, каб тыя не ўздумалі лезці ў ваду.

— І што, так ніхто ніколі там і не купаўся? — пацікавіўся Андрэйка.

— Хто ж ведае! — уздыхнуў дзядуля. — Дзеці, напэўна, баяцца, ды ім і нашага, вясковага возера хапае, а вось дарослым не забароніш. Ведаеш Рому Кудзялевіча?

Дык ягоны бацька калісьці ўтапіўся ў гэтым возеры. Што там з ім здарылася, ніхто не ведае. Моператаміўся ці перагрэўся на сонцы і адразу ў ваду палез, а мо і з сэрцам штосьці здарылася. Але знайшлі яго тут праз некалькі дзён, а пасля гэтага выпадку ў возеры тым ніхто ног нават не памачыў!

Хлопчык сядзеў, слухаў, моўчкі еў сала з хлебам і цыбуляй ды пра нешта думаў. Раптам схамянуўся і ўзрушана сказаў:

— Дзядуля, а ў нас з мамай таксама ёсць сакрэт. Каб цябе не хваляваць, мы табе не расказвалі нічога пра тое, што аднойчы са мной адбылося. Але прайшоў час, і я лічу, што можна ўжо расказаць гэту гісторыю!

Андрэйка змоўк, дзядуля таксама маўчаў і ўважліва глядзеў на ўнука.

— Памятаеш, мінулым летам ты прыйшоў аднойчы з лесу, а мама плакала? Табе яна сказала, што ў яе баліць зуб, але яна сказала няпраўду. На самай справе са мной ледзь не здарылася бяда. У той дзень было вельмі цёпла, і мы з хлопцамі пабеглі на наша возера. Плавалі, ныралі, гулялі ў «баба сеяла гарох…». А потым прыйшлі Таня з Веранікай. У руках у іх былі гумавыя кругі для плавання, такія яркія, рознакаляровыя. Ты ж ведаеш, што я ўмею плаваць, але далёка не заплываю. А тут так захацелася паплаваць на гэтым крузе!.. Падбег да Веранікі, папрасіў пазычыць круг, нават цукерак паабяцаў. Мне б гэты круг ды на пояс надзець, а я лёг на яго і паплыў. Вада цёплая, празрыстая, маленькія рыбкі побач плаваюць. Я і не заўважыў, як мае сябры засталіся далёка на беразе. Раптам пачуў голас Веранікі. Яна крычала, што хопіць ужо плаваць і трэба вярнуць круг. Як так атрымалася, я і сёння не магу зразумець, але, калі пачаў разварочвацца, круг з-пад мяне выслізнуў і адляцеў амаль на метр. А я, калі апынуўся ў вадзе, чамусьці так разгубіўся, што не змог плысці. Некалькі разоў акунаўся з галавой, потым вынырваў, хапаў паветра і зноўку знікаў пад вадой. Першай спахапілася Вераніка. Яна закрычала, замахала рукамі і пабегла да дарослых хлопцаў, якія адпачывалі непадалёк. Двое з іх, Саша і Віця, кінуліся ў ваду, паспелі даплыць да мяне, перш чым я страціў сілы, выцягнулі на бераг, аказалі першую дапамогу. Потым прыбегла мама — не ведаю нават, хто ёй паведаміў. Яна плакала і дзякавала хлопцам. Каб не яны, я б зараз з табой тут не сядзеў. А з мамай мы дамовіліся, што табе нічога не скажам, бо ў цябе хворае сэрца і нельга хвалявацца. І тады ж я паабяцаў маме, што перш чым нешта рабіць, заўсёды буду думаць!

Андрэйка насцярожана паглядзеў на дзядулю: ці не злуецца?

Не, здаецца, не злуецца, толькі ўсміхаецца неяк дзіўна.

— Ведаеш, унучак, гэты «сакрэт» ваш я даўно ведаю.

— Ведаеш? — здзівіўся Андрэйка. — Адкуль? Мама расказала?

— Ды не, не мама! — зноўку ўсміхнуўся дзядуля. — Проста хіба ж у вёсцы можна ўтрымаць хоць штосьці ў сакрэце, асабліва, калі столькі дзяцей усё бачыла. Ты правільна, унучак, кажаш: спярша думаць трэба, а потым рабіць! Ну, што, хадзем дадому?

— Хадзем, — разгублена прагаварыў Андрэйка. — Толькі як цяпер з сакрэтам быць?

— Няхай застаецца сакрэтам! — рассмяяўся дзядуля. — У вас з мамай свой, у нас з табой, унучак, свой.

Андрэй сабраў рэшткі ежы, дзядуля, крэкчучы, падняўся са свайго ўзгорачка. Узяўшы кошыкі, яны пашыбавалі ў бок вёскі.

*Надзея ПРОБСТ,*
*8 клас, Зажэвіцкая СШ, Салігорскі раён*

# Завітаем да Пастэрнака?

*Рэпартаж*

Штогод у ліцэі № 2 Мінска праводзіцца «літаратурная гасцёўня» — мерапрыемства, прысвечанае паэзіі. Яно ў тэатралізаваным выглядзе прадстаўляе біяграфію каго-небудзь з паэтаў. Кіраўніком выступае Дзісь Ніна Андрэеўна — настаўніца рускай мовы і літаратуры. З вучнямі ў яе атрымліваецца ствараць на сцэне нейкую дзівосную, непаўторную атмасферу.

Вось у зале згасла святло. Гледачы, якія да гэтага перашэптваліся, пераключылі ўвагу на экран. Праектар выявіў на ім партрэт Барыса Леанідавіча Пастэрнака. Загучала мелодыя, і Ніна Андрэеўна пачала чытаць верш «Зимняя ночь»: «Мело, мело по всей земле, во все пределы. Свеча горела на столе, свеча горела…» Кожны радок суправаджаецца ілюстрацыяй на экране.

Зала сочыць за адкрыццём «літаратурнай гасцёўні» з прыдыханнем. Прачытаўшы «Зимнюю ночь», Ніна Андрэеўна расказвае пра тое, як яна адкрыла для сябе Пастэрнака. «Я была студэнткай філфака, калі пазнаёмілася з адным маладым чалавекам. Аднойчы ён прачытаў мне дзівоснай прыгажосці верш, але калі я з захапленнем спытала: “Гэта ты сам напісаў?”, ён з прыкметным расчараваннем адказаў: “Ты што, гэта ж Пастэрнак! Як не сорамна вучыцца на філфаку — і не ведаць гэтага вялікага паэта!” Мне сапраўды стала вельмі сорамна. Знайшоўшы і прачытаўшы зборнік вершаў Барыса Леанідавіча, я закахалася ў яго творчасць».

І вось распачалося прадстаўленне. На сцэну выходзяць акцёры — вучні 11-х класаў — і распавядаюць гісторыю кахання Барыса Пастэрнака і Вольгі Івінскай. Гучаць цытаты з запісаў не толькі паэта і яго каханай, але і іх сяброў, а таксама нататкі з газет таго часу. Гісторыя гэта сапраўды вартая таго, каб яе распавесці! Колькі перажылі яны, закаханыя... З-за той акалічнасці, што савецкая ўлада палічыла вершы і раман Пастэрнака агітацыйнымі і антысавецкімі, Вольгу арыштоўвалі і дапытвалі, каб разлучыць з Пастэрнакам, каб прынесці яму гэтым жудасны душэўны боль. Пасля вызвалення Вольга вярнулася ў Маскву і была для паэта галоўнай апорай і падтрымкай падчас ганення, калі яму прысудзілі Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Пісьменніка прызналі вартым узнагароды за раман «Доктар Жывага», але ён быў вымушаны адмовіцца ад яе. Пастэрнака абвінавачвалі ў варожым стаўленні да заваёў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вынікам бесперапынных душэўных пакут стала хуткаплынная смяротная хвароба. 30 мая 1960 года Барыс Леанідавіч Пастэрнак памёр ад раку...

Вершы Пастэрнака — высокая паэзія. У іх закладзена неўміручасць паэта і захоўваецца памяць пра яго. Колькі гадоў прамінула пасля іх напісання, а яны хвалююць па-ранейшаму.

Але вернемся да прадстаўлення. За дзеяннем на сцэне вельмі цікава назіраць. Вучні добра ўжываюцца ў ролі, дэкарацыі і музыка падабраны выключна ўдала. Гісторыя Пастэрнака распаведзена — на сцэну па чарзе выходзяць вучні, чытаюць паэтавы вершы. Усе яны, без выключэння, — захапляюць. Сэнс некаторых з іх мо і не да канца зразумелы, але хто сказаў, што гэта незразумеласць — назаўсёды? Кожнай справе — свой час, і разуменню паэзіі таксама.

Гучаць апладысменты. Яны доўга не змаўкаюць. На сцэну разам з вучнямі

выходзіць Ніна Андрэеўна, якой адразу ж дораць некалькі букетаў. Расчуленая настаўніца кажа: «Дзякуй вам, дзеці! Без вас нічога б не выйшла!» У зале шмат хто не стрымлівае эмоцый — да слёз. Ды і ўдзельнікі пастаноўкі ўжо таксама цішком выціраюць вочы...

«Той, хто пры чытанні вершаў ні разу не адчуў любові да іх, мабыць, не перажыў яшчэ чагосьці вельмі важнага ў сваім жыцці», — сказала Ніна Андрэеўна падчас мерапрыемства. З поўнай упэўненасцю магу сказаць, што нашы вучні яшчэ не раз перачытаюць вершы паэта, каб вярнуць цудоўныя адчуванні і ўскалыхнуць успаміны. Гасцёўня стала выдатным правадніком не толькі ў свет Барыса Пастэрнака, але і ў свет паэзіі наогул.

***Ксенія САСНІНА,***
***11 клас, ліцэй № 2, Мінск***




Подпіс рэдактара

# Кірмаш ідэй

***Ці хацелася б вам атрымаць у школьным гардэробе нумарок, які ніколі не згубіцца? А мець адмысловы кішэнны даведнік, у якім сабраны правілы і формулы, неабходныя для паспяховай вучобы? А купіць у школьным буфеце не толькі смачны бутэрброд, але і «вясёлы»? Скажаце, гэта мары? Для вучняў сярэдняй школы № 10 Барысава гэта рэальнасць.***






З верасня тут пачалі здзяйсняць рэспубліканскі інавацыйны праект «Укараненне мадэлі “Прадпрымальная школа” ў дзейнасць установы агульнай сярэдняй адукацыі». Гэта для таго, каб школьнікі не толькі праяўлялі прадпрымальніцкую ініцыятыву, але і вучыліся рэалізоўваць свае ідэі.

З пачатку навучальнага года зацікаўленыя школьнікі вывучалі праблемы школы, запыты вучняў, бацькоў, жыхароў мікрараёна і на іх аснове будавалі планы, стваралі праекты, каб прэзентаваць іх на «Кірмашы школьных ідэй». У дзень яго правядзення ў школе было асабліва шматлюдна: вучні,





настаўнікі, бацькі, прадстаўнікі падшэфных прадпрыемстваў запоўнілі фае. Кожны ўдзельнік кірмашу меў магчымасць прадэманстраваць сваю мару, нават самую неверагодную. Тут прэзентавалі крэатыўныя нумары для шоу-праграм, здзіўлялі арыгінальнымі пакункамі для падарункаў, частавалі «вясёлымі» бутэрбродамі… Было цікава, шумна, весела — як на сапраўдным кірмашы.

Перад журы, у склад якога ўваходзілі кіраўнікі праекта і прадстаўнікі школьнага выдавецкага цэнтра, стаяла задача вызначыць самыя карысныя і арыгінальныя ідэі, каб даць магчымасць аўтарам ажыццявіць іх. Пераможцаў аказалася шмат, таму што ўдзельнікі пастараліся ўключыць у падрыхтоўку праектаў і бацькоў, і настаўнікаў, і нават проста знаёмых.

Самымі перспектыўнымі журы вызначыла наступныя праекты: «Вясёлыя рабяты» па падрыхтоўцы дабрачынных свят для дзяцей; «Карпарацыя прэзентацый» па падрыхтоўцы арыгінальных прэзентацый да свят; «Школьны салон «Касічка»; дзе можна не толькі зрабіць прычоску, але і навучыцца плесці арыгінальныя касічкі, такія модныя ў гэтым сезоне; «Нумарок «Негубляйка» з ідэяй для школьнага гардэроба; «Кішэнны даведнік», у якім сабраны ўсе правілы і формулы; «Усмешачку!» па стварэнні ў школе часовых пераносных фігур для арганізацыі фотасесій; «Буга» па зборы паперы казачным персанажам Бугай, фігуры-кантэйнеры якога размяшчаюцца ў школьных калідорах.

Асабліва хочацца расказаць пра «Вясёлыя бутэрброды». Аўтары праекта не толькі прадставілі падрабязную тэхналогію прыгатавання, але і падлічылі кошты гатовых вырабаў. Справа за маленькім: убачыць іх у вітрынах школьнага буфета!

Пачатак новай — цікавай і вельмі патрэбнай справе — пакладзены. Мы ўпэўніліся, што прадпрымальніцкаму мысленню можна навучыцца. Наперадзе — самае цяжкае: практычная рэалізацыя. Як гэта ў нас атрымаецца? Абавязкова раскажам.

***Юлія ФІЛІПЧУК,***
***рэдактар школьнага часопіса «Взгляд»,***
***9 клас, СШ №10, Барысаў***




Подпіс рэдактара




# Спіс традыцый, зноў непоўны

***Працягваем распавядаць пра тое, як жыве дзіўная краіна на літару «З» і яе жыхары зубраняты. Зноў гаворым пра традыцыі. Тут іх вялікая колькасць, усе яны цікавыя і падчас змены робяцца сапраўднай часткай жыцця.***

## ВІТАННЕ

Вельмі пазітыўная традыцыя! Сутнасць яе ў тым, што неабходна жадаць добрай раніцы, добрага дня і добрага вечара ўсім людзям, якіх сустракаеш на тэрыторыі лагера. Гэта выклікае велізарную колькасць усмешак на тварах і дорыць добры настрой. Уяві сабе: ідзяце вы атрадам, напрыклад, у ВАЗ (вялікая актавая зала), а насустрач вам пахмурны чалавек, які не выспаўся. І тут вы ўсе разам, 27 чалавек, з усмешкамі весела кажаце: «Добрай

раніцы!» І настрой у яго сам па сабе паляпшаецца, бо прыемна.

## КРЫЧАЛКІ І ДЭВІЗЫ

Або «Хто каго перакрычыць». Такое спаборніцтва на мерапрыемствах паміж атрадамі, калі кожны атрад як мага гучней вымаўляе дэвіз свайго корпуса.

Нярэдка можна пачуць вясёлыя выгукванні дэвізаў і крычалак нават проста ідучы па вуліцы. За такія «рэпетыцыі» можна атрымаць «Зубрык».

## МАГІЧНЫЯ МЕСЦЫ

У лагеры шмат сімвалічных куткоў, куды важатыя водзяць дзяцей, каб тыя маглі адкрыць там свае мары, якія абавязкова спраўдзяцца! Адно з такіх месцаў — бяроза жаданняў — напэўна, самае папулярнае. На кары дрэва можна ўбачыць выяву далоні, і калі прыкласці сваю руку да яе і загадаць тое, чаго больш за ўсё хочаш, то — будзь ўпэўнены! — гэта спраўдзіцца: праверана асабіста мной! Для ажыццяўлення мар ёсць яшчэ і крынічка з чароўнай вадой. І алея ведзьмаў — калі прайсціся па ёй, узяўшыся з кім-небудзь за рукі, то абавязкова яшчэ раз сустрэнешся з гэтым чалавекам.

Кожную змену зубраняты наведваюць гэтыя месцы і загадваюць жаданні! Якім менавіта чынам мары ажыццяўляюцца, застаецца таямніцай.

## ВЯЧЭРНІ АГЕНЬЧЫК І «ЗУБРАЦКІ ГУРТ»

Сабраўшыся атрадам на Вогнішчавым месцы, пад трэск агню і гукі гітары, пачынаем час шчырасці. Час душэўных размоў, апавяданняў і прыпавесцей. Час, калі ўсе сядзяць у «Зубрацкім гурце». Калі ўсё выразней разумееш і адчуваеш, што знаходзішся ў адной вялікай і дружнай сям'і. Што побач сябры і любімыя важатыя. Адчуваеш неймаверную падтрымку — і ўсе праблемы знікаюць. У гэты час ты — самы шчаслівы чалавек на зямлі.

У канцы вячэрніх агеньчыкаў ладзім «Зубрацкі гурт». Мы становімся ў гурток, правую руку кладзём на плячо суседу справа, а левай абдымаем суседа злева, і разам спяваем і вымаўляем крычалкі.

Скончыўшы спяваць, выбіраем слова дня. Напрыклад, прайшоў конкурс «Міс Зубронак» і мы выйгралі, значыць, слова будзе «Перамога».

Часта бывае, што з вячэрніх агеньчыкаў шмат хто сыходзіць у слязах. Не, не таму, што пакрыўдзілі ці нешта адбылося, а таму... Я нават не магу падабраць патрэбных слоў, каб растлумачыць, проста нешта чапляе сэрца. І калі ты думаеш, што ты самы несентыментальны чалавек у свеце, то «Зубронак» пакажа табе: гэта не так.

Спіс традыцый зноў непоўны. Іх можна прыдумляць самім, і, хто ведае, можа, менавіта ваша ідэя будзе жыць у «Зубронку» і праз шмат гадоў? У нас у атрадзе была свая традыцыя. Мы на працягу ўсяго дня пісалі на паперы ананімныя пытанні і складалі іх у скрыначку. Потым, на вячэрнім агеньчыку, важатыя задавалі іх, і кожны павінен быў шчыра адказаць.

Пражыўшы ў «Зубронку» 21 дзень, дадому вяртаешся іншым чалавекам. Бо гэта — час удасканалення, станаўлення звычак. Па вяртанні дамоў ты яшчэ доўга будзеш ўключаць SocuBachi і танцаваць, праводзіць вячэрнія агеньчыкі ў чатах, бо гэтыя традыцыі стануць велізарнай часткай цябе самога.

***Алена РЭМАНЮК,***
***11 клас, Коханаўская СШ імя І. П. Кажара,***
***Талочынскі раён***

***Дружа! Ці адпачываў ты калі ў «Зубронку»? Калі так, то напішы пра гэта месца нешта такое, што іншыя не напішуць! Атрымаеш прыз!***

# Чорны веласіпед






Аднаму хлопчыку падарылі чорны веласіпед.

Хлопчык абрадаваўся і адразу пабег у двор катацца.

Ён спачатку паганяў па двары, пасля выехаў на вуліцу, хоць мама строга забараніла яму гэта рабіць. Але хлопчык успомніў пра гэта толькі тады, калі апынуўся ў зусім не вядомым яму месцы. Тады ён вырашыў развярнуцца і ехаць дамоў, а руль заклініла. Хлопчык хацеў спыніцца і злезці з веласіпеда, але яго ногі быццам прыклеіліся да педаляў і працягвалі іх круціць! І хлопчык зразумеў, што гэта педалі круцяць яго нагамі!

Надышоў вечар, і хлопчык апынуўся за горадам, а веласіпед усё ехаў і ехаў… Пакуль наперадзе не з'явіліся старыя могілкі.

Тут руль сам сабою павярнуўся, і веласіпед з'ехаў з трасы наўпрост да пагосту! Хлопчык учапіўся ў руль і прыгнуўся — чорны веласіпед імчаў, не разбіраючы дарогі, скрозь кустоўе, і галіны драпалі цела… І яшчэ як быццам нехта прыгаворваў: «Добра! Гэта добра!»

Веласіпед вылецеў на могілкі ў той момант, калі ўзышоў месяц. Нешта здарылася: хлопчык глянуў наперад і прыкмеціў, што сядзіць ён не ў сядле, а на чорным памяле, і апрануты ў ЧОРНУЮ ПАДРАНУЮ СПАДНІЦУ! Ён войкнуў і не пазнаў свой голас — так той змяніўся! Хлопчык ад жаху скаціўся на магілы і страціў прытомнасць. Ачуняўшы, патэлефанаваў інспектару Гваздзеву і той выклікаў хуткую псіхіятрычную дапамогу, а мятлу параіў спаліць…

Хлопчык вылечыўся, але назаўсёды застаўся дзяўчынкай. Цяпер яна працуе на велазаводзе майстрам, а завуць яе Уладзіміра Генадзьеўна.

***P. S.: Гэту гісторыю прыдумаў бяссонай ноччу я, твой сябар Аркаша. Я вельмі чакаю страшных і забаўляльных гісторый ад цябе, мой дружа. Мне ж, уяві сабе, сумна ў рэдакцыі, дзе ўсе занятыя сур'ёзнымі справамі, ад мяне ж тут патрабуецца толькі вартаваць начны сон сталоў, крэслаў, шафаў ды кніжных паліц. А мне хочацца сапраўднага! Ну, хаця б адказваць на лісты чытачоў. Я так зайздрошчу рэдактарам: яны атрымліваюць іх, а я — не. Напішы мне, дружа! Я падару табе за гэта свой «бярозкаўскі» кубак для гарбаты!***

# Шукайце сваё «Я»

*6 і 7 клас*

*«Ад роду — да народу»*



Аднойчы ў пятым класе я моцна задумаўся: чаму ў нашай сям'і прозвішча Ліпскія. Пачаў, найперш, дапытваць маму і тату пра радню. Склаў схему сямейнага дрэва. Яно аказалася даволі высокім, кучаравым, каранастым — якраз як наша векавая ліпа. На ёй пастаянна зумкаюць пчолы. Кветкамі і лісцікамі ад яе мама лячыла нас, шасцярых дзяцей. Будзьце здаровы, шоўкаўскія Ліпскія, ад шчодрых дароў прыроднай ліпы!

Пра сваіх сямейных, блізкіх і далёкіх, родзічаў я сабраў, як змог, амаль усе звесткі: дзе жывуць, дні нараджэння, фота, кім працавалі, што рабіць умеюць, якія песні ведаюць, іх жарты, прымаўкі. А калі запісаў дзявоцкія прозвішчы мамы, цётак, дваюрадных, траюрадных ды даведаўся, з кім жаніліся нашы Ліпскія, то атрымалася, што з намі парадніласа больш за паўсотню людзей з іншымі прозвішчамі. А яны хто, адкуль, якія?

Аднойчы сеў і панапісваў лісты ва ўсе раёны Беларусі: адгукніцеся, Ліпскія!

І што вы думаеце? Пачалі ў нашы Шоўкавічы прыходзіць лісты. Я перамаляваў карту Беларусі на адваротным баку кавалка шпалеры і пачаў чырвоным алоўкам пазначаць мясціны, дзе жывуць мае аднафамільцы. Карта зачырванела. А я натхніўся, адчуў сябе багацеем на радню. Задумаў калі-небудзь сесці на каня і паехаць на цэлы год у госці да Ліпскіх. Вось такім летуценнікам і даследчыкам быў школьнік з вёсачкі Шоўкавічы, што на Палессі, Уладзімір Ліпскі.

Калі паехаў вучыцца ў Мінск, прыхапіў свой агульны сшытак па радаводзе. І папаўняў яго новымі звесткамі заўсёды: і калі працаваў на цукровым заводзе ў Гарадзеі, і калі працаваў у рэдакцыі ў Нясвіжы. У гэтым старажытным горадзе, у якім замак Радзівілаў, іх парк, азёры, касцёл, радаводны склеп, я ўсур'ёз задумаўся пра свой радавод. Бач, князі паклапаціліся апісаць усё сваё дрэва, усе яго галінкі і лісцікі, а мы што, Ліпскія, горшыя людзі?

Я кратом, нястомным працаголікам, палез у архівы Мінска, Гомеля, Рэчыцы, Вільнюса, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Варшавы, Кракава.

І што вы думаеце? Адкапаў, што мы, Ліпскія, не з лапцюжнікаў, не з балота, пра што я з горыччу думаў, а — з дваран. Маем герб. Я адшукаў яго ў архівах і папрасіў мастака Яўгена Ларчанку перамаляваць. І вось ён у поўнай красе.

На зялёным пагорку, у летняй мураве стаяць срэбныя граблі. На іх — сем зубоў, як сем дзён у тыдні, як прыкмета таго, што гэтай сельскай зброяй зямляне карысталіся кожны дзень. Летам і восенню — на лузе, сенажаці, у полі. Зімой і вясной — ля стога сена, у хляве, на двары.

На залатым шчыце срэбныя граблі — сімвал працавітасці, адданасці зямлі, роднаму краю, бацькам і Богу, якія падаравалі шчасце ўбачыць свет.

У кляйноце, як звычайна, — шлем рыцарскі і карона. Шлем азначае, што радавод гэты ўслаўлены абаронцамі, воінамі, змагарамі за Бацькаўшчыну. А карона — знак таго, што род пад гэтым гербам знакаміты, старажытны, прызнаны.

Герб «Граблі» вядомы з 1227 года. Кажуць, ён паходжання чэшскага. А правільней — багемскага, бо Чэхія і Маравія даўней называліся Багеміяй. У VI—XII стагоддзях там гаспадарылі славяне. У Польшчу герб перанесены на самым пачатку XIV стагоддзя. Першыя ўладальнікі — Ержы з Косіна і Ян Касінскі. Найбольш распаўсюджаны ў землях кракаўскіх, калішскіх, сандамірскіх, у Белзскім ваяводстве.

З сямідзесяці двух сямейных родаў, якія прынялі герб «Граблі», багата якія перанеслі той герб на Беларусь, у Чырвоную Русь, Мазовію, на Віленшчыну.

Слаўны род Ліпскіх, як сцвярджаюць польскія гербаапісальнікі, пачаўся ад Генрыха з Ліпы, які ў 1305 годзе ўнёс у Польшчу з Багеміі герб «Граблі».

Гняздом гэтага шырока разгалінаванага роду была вёска Грабіна Воля бліз горада Пётркава. А прозвішча Ліпскі род атрымаў ад набытага на вечнасць маёнтка Ліп'е ў Калішскім ваяводстве. У XVI стагоддзі, пішуць геральдысты, многія з Ліпскіх герба «Граблі» перасяліліся ў Вялікае Княства Літоўскае, на тэрыторыю сучаснай Беларусі.

Я перавярнуў пуды архіўных папер, якія да мяне ніхто не глядзеў. І паверыў: адкрыў вялікі род Ліпскіх!

Даведаўся, што ў Кракаве жыў і працаваў Анджэй Ліпскі (1572—1631). Увайшоў у гісторыю як канцлер каралеўскі, біскуп кракаўскі, адзін з таленавіцейшых юрыстаў свайго часу, выдатны прамоўца і аўтар шматлікіх кніг. Яго некаторыя кнігі я трымаў у руках, гартаў і чытаў у архіве Чартарыйскіх у Кракаве.

Цікавая асоба Адам Ліпскі (1515—1633), малодшы брат канцлера каралеўскага. Сваю кар'еру прысвяціў ваеннай справе. Быў адчайным і смелым воінам, з вогненным парывам у сэрцы і характары. Пра яго нават згадвае слынны гісторык Расіі С. М. Салаўёў — як Адам Ліпскі ўдзельнічаў у паходзе Ілжэдзмітрыя на Маскву.

Ян-Аляксандр Ліпскі (1690—1748) ад прыходскага ксяндза даслужыўся да кардынала. Вышэй стаяў толькі папа ў Ватыкане ды сам Бог на небе. З Янам-Аляксандрам мы сустрэліся ў Карцінная галерэі ў Кракаве. Ён, велічны і важны, лагодна пазіраў на мяне з партрэта. Мы сфатаграфаваліся.

Я раздабыў звесткі пра памешчыка Самуэля Ліпскага, які некалі заклаў паселішчы Ліпск і Ліп'е, непадалёк ад Любліна. Я наведаў іх і, о цуд, хадзіў там з нязменным пачуццём, што некалі я тут ужо бываў. Не магу адагнаць ад сябе, не магу пазбавіцца ад яго.

Адкрыў, што мэрам Мінска быў Ксаверый Ліпскі (1766—1820). Ён вырас на «дрэве» Святаслава, а перад ім быў Самуэль — заснавальнік горада Ліпск і вёскі Ліп'е. Па метрыках у яго было сем імёнаў: Ксаверый — Франц — Казімір — Норбет — Аліозій — Фадзей — Іосіф. Графу Ліпскаму, мэру Мінска, выпала нялёгкае выпрабаванне: пачалася вайна з Напалеонам.

Юзаф Ліпскі (1894—1956) быў паслом Польшчы ў Германіі ў гады фашысцкага панавання. Ён — вяршыня сямейнага роду, яго чатырнаццатае калена, унук прадвадзіцеля дваранства Віцебскай губерні Івана Ігнатавіча Ліпскага. Яго бабулю Аліну, удаву, якая дапамагала паўстанцам Кастуся Каліноўскага, Мураўёў выслаў пад нагляд паліцыі ў варонежскія стэпы…

Стаўлю шматкроп'е, бо нельга нават пералічыць усіх Ліпскіх, каго я адкрыў у тайніках архіваў. Я нават зрабіў літаратурнае адкрыццё: што паслужыла штуршком і натхненнем для Дуніна-Марцінкевіча напісаць неўміручую п'есу «Пінская шляхта». А ўсё таму, што я адкапаў у архівах крымінальную справу № 39 Цюхаёў-Ліпскіх з аколіцы Ольпень. Яна апісана на 436 старонках і доўжылася трыццаць тры гады.

Я ўзварушыў памяць вакол роду Ліпскіх. Напісаў кнігу «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод». З тэмай радаводу прайшоў у беларускай літаратуры па цаліку. За гэта атрымаў з рук Прэзідэнта высокую ўзнагароду — ганаровы знак і дыплом лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

А цяпер хачу для вучняў, якія праходзяць урок па маёй кнізе, даверыць некаторыя старонкі сваёй біяграфіі. Бо часам здараюцца недарэчнасці. Вучань пераказвае ці чытае, а бывае і на памяць вучыць літаратурны твор, а аўтара, на жаль, не ведае, не можа нават згадаць яго прозвішча. Вось я і вырашыў бліжэй пазнаёміцца з вучнямі, чытачамі «Бярозкі».

***Ад рэдакцыі. Дружа! Вельмі раім табе і мы пазнаёміцца з Уладзімірам Ліпскім яшчэ бліжэй. Яго аповед пра сябе змешчаны ў № 5 часопіса «Маладосць». Гайда ў бібліятэку!***

# Парады на падставе адной кнігі



«Калі бацькавы вусы былі яшчэ рудымі» — кніга, напісаная нямецкім пісьменнікам Вольдзітрыхам Шнурэ. Незвычайнасць рамана ў тым, што часткі, з якіх ён складаецца, між сабой не звязаны, і чытаць іх можна ў любой паслядоўнасці, нешта прапускаючы і забягаючы наперад. Вось і першая ідэя для формы твора, калі карціць напісаць нешта не зусім звычайнае.

Хлопчык Бруна жыве з бацькам у Берліне. Як усе, любіць гуляць і робіць часам не лепшыя ўчынкі, але ўвогуле даволі нядрэнны. Ота — тата хлопчыка, яму не вельмі шанцуе з працай і заробкам, але ён стараецца, каб Бруна не адчуваў беднасці. У Шнурэ атрымалася стварыць вельмі цікавы вобраз бацькі. Ён так сур'ёзна ставіцца да прыдумак сына, так адклікаецца на просьбы людзей… Не смяецца над учынкамі і словамі, што выклікаюць смех, не злуе на тых, хто далёка не добры, ездзіць на магілу глінянага гнома… Справа не ў тым, што ён гэта робіць, а ў тым, як ён да гэтага ставіцца. Шнурэ ўдалося напісаць так, каб мы чыталі і ўсміхаліся, адчуваючы смутак. Так проста і немудрагеліста — пра тое, што складана. І кожная частка запамінаецца або чалавекам, або ўчынкам, або адчуваннем пасля прачытання.

Часам трапляюцца цікавыя словазлучэнні: «абгрызены край сонца», «насычаная электрычнасцю паўза», «мы елі не дэсерт, мы лыжкамі паглыналі хваляванне», «нож працягваў пяшчотна рэзаць». Самі па сабе гучаць дзіўнавата, а ў агульным тэксце менавіта дзякуючы ім разумееш дакладна, што адбываецца.

Па-мойму, і сама назва вельмі незвычайная. Шнурэ не назваў кнігу «Калі мой бацька быў маладым» або «Калі я быў маленькім», ён зрабіў нешта складанае і ад таго атрымалася больш дакладна. І ўжо з назвы чытач даведваецца, што ў бацькі вусы былі рудымі, а не чорнымі, і што яны ўвогуле былі.

Гэту кнігу можна прачытаць, каб успомніць дзяцінства, пасумаваць крыху над яго ўчынкамі, а можна чытаць — і вучыцца пісаць. Гэта практыкум.

*Арына КАРПОВІЧ*



*Цэнтральны савет Грамадскага аб'яднання «Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» прадстаўляюць творчасць удзельнікаў конкурсу*
«Ніколі не забудзем: унукі пра вайну»



# Вайна — гэта людзі

## Подзвіг: просты і натуральны

Памятаю, як настаўніца спыталася на ўроку ў вучняў: «Што такое подзвіг?» Думаеце, яны разгубіліся ў пошуках адказу?

Ды не! Хлопчыкі і дзяўчынкі маюць на гэта свае меркаванні: «Гэта калі ў цябе страляюць, а ты не баішся», «Гэта калі цябе хочуць забіць, а ты сам — як дасі ім!..», «За подзвіг заўсёды ўзнагароджваюць медалём».

Вы скажаце, што ўсё правільна і няма чаго пярэчыць. Ды толькі мала ведаюць сучасныя вучні, што ў вайны ёсць і «негераічны» бок. Што подзвіг можа быць такім непрыкметным, што ў першы момант і не падумаеш, што гэта сапраўды подзвіг. Мы часта разумеем подзвіг як ледзь не сінонім славы, і няпроста бывае зразумець яго як проста абавязак і нават будзённасць. А трэба ўмець бачыць подзвіг і ў тым, што здаецца негераічным.

Сям'я ў бабулі была вялікая. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, меншаму было тры гадкі, а ўсяго дзяцей было сямёра. Што такое вайна і чаму ўсе дарослыя плакалі, ім, малым, было незразумела. А калі пачалі кудысьці сыходзіць дарослыя мужчыны, то і наогул дзіўна. Жанчыны заставаліся адны са сваімі дзецьмі ў небагатых хацінах, у маленькіх вёсачках альбо на хутарах.

Калісьці ў Кастрычніцкім раёне быў хутар Рассахотка, вось там, па словах маёй бабулі, і жыла іх вялікая сям'я. Мы прыехалі з бабуляй на месца, дзе калісьці знаходзіўся іх дом, а зараз шапацяць лісточкі бярозы ды развесіў рукі-галіны стары вялізны дуб, пад якім стаіць іржавае вядро. І бабуля, прысеўшы на гэта вядро, цяжка ўздыхнуўшы, пачала апавядаць мне гісторыю са свайго дзяцінства.

Ім, дзецям, ужо зрабілася зразумелым, што такое вайна. Гэта, перш за ўсё, голад і слёзы матулі. І здавалася ім яшчэ, што не такое гэта ўжо і гора, таму што былі яны разам і жылі дружна. І што з таго, што часам старэйшыя браты маглі, калі не бачыла маці, адабраць кавалак хлеба ці вараную бульбіну. Не бяда! Заўтра дзяўчаты таксама маглі скрасці ежу ў братоў, пакуль тыя займаліся па гаспадарцы. Усё было б

нічога, калі б аднойчы раніцай не з’явіўся на хутары карны атрад.

Чатырох дзяцей, сярод якіх была і бабуля, немцы забралі з сабой. Старэйшаму было дзесяць гадоў. Куды іх везлі, чаму адабралі ў маці, якая, плачучы, засталася ляжаць у дарожным пыле, чатырохгадовая дзяўчынка зразумець не магла. Яна ціхенька плакала, размазваючы слёзы па твары, са страхам глядзела на немцаў ды прыціскалася да старэйшага брата, які адразу ж стаў для яе, ды і для двух другіх хлопчыкаў, самым разумным і галоўным. Як дабраліся яны да станцыі ў Бабруйску, яна амаль не памятала: змарыўшыся ад дарогі і слёз, дзяўчынка спала на руках у братоў. Куды яе вязуць і што гэта за Германія такая, яна тады не разумела. Ёй хацелася дадому, да мамы, да сваіх цацак, сярод якіх ёсць лялька з залатымі валасамі. Ну і што, што без нагі і сукенка дзіравая…

Прачнулася дзяўчынка ад таго, што брат паставіў яе, сонную, на ногі, пагладзіў па галаве, сабраў ускудлачаныя русыя валосікі і ціха прамовіў: «Усё. Прыехалі». Куды прыехалі, навошта прыехалі, да каго прыехалі… Побач стаялі такія ж самыя дзеткі, хтосьці плакаў, хтосьці са старэйшых спрабаваў уцячы, але яго даганялі, білі і зноўку адпраўлялі ў агульны строй. Бабуля ўспамінала, што толькі праз шмат гадоў, ужо дарослай, яна змагла асэнсаваць тое, што давялося перажыць тады.

Яны апынуліся ў канцлагеры, толькі ў розных адсеках. Іх выратавала тое, што яны маглі бачыцца кожны дзень, размаўляць між сабой, падтрымліваць і суцяшаць. За гады, праведзеныя ў Германіі, дзеці сталі амаль дарослымі. Самае страшнае, што памятала бабуля, — гэта заўсёднае адчуванне голаду, нягледзячы на тое, што адзін з братоў, самы пранырлівы, час ад часу пакідаў тэрыторыю і прабіраўся ў горад. Адтуль ён прыносіў прадукты, і самае смачненькае заўсёды даставалася малодшай сястрычцы. Сам ён, дарэчы, нічога з таго, што прыносіў, не еў, казаў, што наеўся ў горадзе. Праўда гэта была ці не, засталося загадкай.

Што павінны былі рабіць немцы з рускімі





*Памяць.*
*Анастасія Сакольчык, 13 гадоў, Мінск*





*Паверце мне, я ведаю шлях да неба.*
*Аліса Грынштэйн, 15 гадоў, Брэст*




*Партызанка.*
*Любоў Здановіч, 14 гадоў, Гродна*




*Дзеці супраць фашызму.*
*Павел Назаранка, 11 гадоў, Гродна*

дзецьмі, ніхто тады не ведаў. Бабуля памятала, што іх часта аглядалі ўрачы, бралі кроў для аналізаў, сартыравалі, кагосьці адвозілі, кагосьці зноўку вярталі. І як доўга гэта павінна было працягвацца, таксама ніхто не ведаў. Але ўсё часцей у лагеры пачалі гаварыць пра вызваленне. Браты казалі, што цяпер яны хутка вернуцца дадому. Яна верыла і цярпела: вельмі хацелася да мамы.

Дзень вызвалення з лагера бабуля памятала дрэнна. Казала, што нічога тады не зразумела. Памятала толькі, што зноўку, у мітусні і неразбярысе, адшукалі яе браты, як старэйшы моцна трымаў яе за руку і наказваў астатнім нікуды не адыходзіць. Вось так, разам, дабраліся яны да станцыі, дзе іх чакалі саставы. А яшчэ памятала бабуля, як на вакзале падышла да яе жанчына-немка, прыгожая, дагледжаная, прысела перад ёю, пагладзіла па зблытаных валосіках і штосьці хутка пачала казаць. Дзяўчынка нічога не разумела, яна шырока расплюшчанымі вачыма глядзела на немку, а потым жанчына працягнула дзяўчынцы руку, усміхнулася і… павяла за сабой.

Толькі потым бабуля даведалася, як браты, адстаўшы ад цягніка, доўга шукалі яе, нарэшце знайшлі і ледзьве не біліся з жанчынай-немкай, адбіраючы сваю сястру.

Дабірацца дадому ім давялося самастойна. Калі ўжо садзіліся ў вагон, на пероне з’явілася тая самая немка, трымаючы ў руках вялізную ляльку з блакітнымі вачыма. Убачыўшы дзяцей, яна хуценька падышла да іх і моўчкі працягнула ляльку дзяўчынцы. Браты, галодныя і змораныя, сядзелі ў вагоне і назіралі за сястрой. А яна прыціскала да грудзей падарунак і была, здавалася, самая шчаслівая.

На сваёй зямлі ім стала лягчэй. Дапамагалі мясцовыя жыхары: пакідалі на начлег, кармілі, шкадавалі, дзяліліся, чым маглі. Дзеці прабіраліся дадому праз лясы і балоты, часам адпачывалі ў лесе, на яловых лапках. Цяпер ужо мясцовыя дарослыя прапаноўвалі братам пакінуць дзяўчынку, каб потым вярнуцца за ёй з бацькамі. Але старэйшы з братоў, як толькі чуў такое, адразу ж браў сястрычку за руку і

спяшаўся да выхаду, бо менавіта ён павінен прывесці іх усіх дамоў, да бацькоў!

Прайшло шмат гадоў. Выраслі і раз'ехаліся з бацькоўскага дому дзеці, у кожнага свае сем'і, унукі і праўнукі. Няма ўжо ў жывых бацькоў, ды і хутар, дзе прайшло дзяцінства, знік. Некалькі бярозак, здзічэлыя яблыні ды вялізны дуб — вось усё, што засталося ад Рассахоткі. Кожны раз, калі бабуля ўспамінала пра ваеннае дзяцінства, яна казала, што толькі дзякуючы старэйшаму брату яны засталіся тады жывымі, а вось родны кут чамусьці захаваць не змаглі. А я думаю, што не змаглі захаваць таму, бо жыццё на вайне і проста жыццё — гэта розныя паняцці. Мы часта чуем выразы: «ў вайну», «на вайне», «аб вайне». І што дзіўна, неяк прапускаем усё гэта міма вушэй, не ўздрыгваем, не спыняемся.

Таму што няма часу? Ці таму толькі, што, «усё» ведаючы аб вайне, мы не ведаем аднаго — што ж гэта такое, вайна?

Мне здаецца, што вайна — гэта людзі. І жыццё на вайне — каштоўнасць, якую трэба было зберагчы. І тое, як цанілі жыццё дзеці, — гэта і ёсць подзвіг, просты і натуральны.

У пакоі бабулі, на старэнькім камодзе стаяць дзве лялькі: вялікія, пластмасавыя і вельмі старыя (так мне заўсёды здавалася). Кожнае лета бабуля выносіла іх у двор, каб памыць і самі лялькі, і іх сукенкі, потым акуратна прасавала гэтыя сукенкі, прычэсвала лялькам бліскучыя валасы і апранала ў чыстую «адзёжку». Я не разумела, навошта берагчы гэтае «стар'ё», калі ёсць сучасныя Барбі і Соні?

Бабулі ўжо няма з намі. Зараз, заходзячы ў пакой, дзе па-ранейшаму «жывуць» старыя лялькі, я заўсёды падыхожу да іх, кранаюся шаўкавістых валасоў, гляджу ў вялікія блакітныя вочы і разумею, што яны, гэтыя лялькі, — памяць. Для бабулі гэта была памяць пра яе ваеннае дзяцінства і подзвіг старэйшых братоў, для мяне — памяць пра бабулю.

***Кацярына ГОРМАШ,***
***14 гадоў, г.п. Акцябарскі, Гомельская вобласць***





*Дзень Перамогі.*
*Аляксей Традчык, 12 гадоў, Жыткавічы*





*Дзяцінства, абпаленае вайною.*
*Максім Лаўрэнцік, 15 гадоў, Свіслач*

# Мой прадзед



Дзень Перамогі.
Аляксандра Кот, 13 гадоў, Брэст





Партрэт любімага дзядулі.
Наталля Сірож, 13 гадоў, Мінск



Ёсць на Беларусі месцы, дзе не гняздуецца бусел. Гэта папялішчы вёсак, якія згарэлі ў агні вайны разам з жыхарамі…

Я заўсёды з нецярпеннем чакаю летніх канікулаў, каб наведаць сваю бабулю. І мы з ёй на некалькі тыдняў едзем у яе родную вёску, дзе засталася хата майго прадзеда, каб пабыць там, пакланіцца дарагім нашым сэрцам магілам.

Нябачная нітачка звязвае мяне з гэтай вёскай. Здаецца, тут па-іншаму шумяць дрэвы, па-іншаму спяваюць птушкі, тут так лёгка дыхаць.

У лясах, якія акружаюць вёску, у гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічала партызанская брыгада пад камандаваннем Дзенісенкі (Міцькі). У складзе брыгады быў і мой прадзед Павел Васільевіч Балабановіч. Мноства баявых аперацый на рахунку гэтай брыгады. Мой прадзед часта хадзіў у разведку.

Азвярэлыя фашысты спалілі вёску. Ад яе засталіся толькі назва ды груды камення. І адзінокія буслы, што самотна кружылі над папялішчамі і сваімі згарэлымі гнёздамі.

Столькі цікавага расказваў прадзед маёй бабулі, а яна мне.

Ваенны шлях прадзеда прадоўжыўся на фронце, дзе ён атрымаў медаль «За адвагу» і ордэн Славы. Да канца свайго жыцця прабабуля берагла ліст, у якім было напісана:

Лівія — самая засушлівая краіна свету. Пустыні складаюць амаль 99 % яе тэрыторыі, у некаторых месцах дажджоў не бывае дзесяцігоддзямі.

***Ілюстрацыі: праект «Герои никогда не умирают, герои в нашей памяти живут» Грамадскага аб’яднання «Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя»***

«Дарагая жонка! Пішы мне часцей, прашу цябе. Пакладзі ў канверт паперу, на якой адбіткі рук маіх дачушак. Надзейка! У хуткім часе наш чырвоны сцяг заззяе над Берлінам і тады вайне канец. Я пакуль жывы, але сама ведаеш франтавое жыццё: цяпер пішу ліст, а праз хвіліну мяне можа не быць».

А пасля лістоў не стала. На запыт ваенкамата прыйшоў адказ: «Знік без весткі». Але ў бабулі жыла надзея, што муж вернецца. Яна кожную хвіліну спадзявалася, што ён жывы. Доўга-доўга чакала, калі іншыя не чакалі ўжо. І нарэшце з нямецкага краю прыйшоў ліст. Аказалася, што ў баях муж быў цяжка паранены. Вясну Перамогі сустрэў у Берліне. З баявымі ардэнамі і медалямі вярнуўся дадому.

Яго ўзнагароды захоўваюцца на пачэсным месцы ў доме бабулі. Калі яна расказвае пра гэта, з вачэй яе цякуць слёзы.

Прыязджаючы ў вёску, бабуля заўсёды наведвае прыгожы лес, дзе размяшчаўся штаб партызанскай брыгады. Ёй вельмі хацелася паказаць мне зямлянкі, якія аднавілі вучні мясцовай школы, правесці па тых сцяжынках, па якіх некалі хадзіў прадзед.

Быў цёплы дзень. Разбуджаны вясною красавіцкі лес выпраменьваў такую цудоўную мелодыю, што не хапала сіл крануцца з месца. Стаяў бы гадзінамі і слухаў вясну, зачараваны яе прыгажосцю. Яшчэ не было буйнай зеляніны на дрэвах, затое на зямлі раскінуўся рознакаляровы дыван вясновых кветак. Суцэльнае каляровае мора. Белыя кветкі ветраніцы дуброўнай, жоўта-зялёныя — гусінай цыбулі, светла-сінія агеньчыкі пралесак. І нябесная сінь фіялак.

Фіялкі, фіялкі, фіялкі…

Але цішыню парушыў гул матора. З машыны выйшаў старэнькі сівы чалавек і немаладая жанчына. Да нас даляцелі словы: «А памятаеш, Люба, вось пад гэтай бярозай знаходзілася наша зямлянка?» Мы падышлі бліжэй і бабуля пазнала старога. Гэта быў былы партызан Іван Восіпавіч Васілеўскі. А жанчына — тая дзяўчынка, якая ў гады вайны забяспечвала брыгаду лячэбнымі травамі, каб потым доктар партызанскай брыгады дазіраваў іх і гатаваў у цяжкіх умовах лякарствы, лячыў партызан. Мы ўбачылі на яе касцюме два рады ордэнскіх планак: побач з партызанскім медалём — медалі за добрасумленную працу.

Я заўважыла, як ветэран падышоў да дрэў і, як з баявымі таварышамі, гаварыў ім без слоў тое, што зразумела толькі яго сэрцу. Ціха-ціха ў лесе. Толькі чутна, як пад красавіцкім ветрам шумяць бярозы, быццам будзяць успаміны былога партызана, дапаўняючы яго аповед…

Дарагі мой прадзед!

Я ніколі не бачыла цябе, ведаю толькі па фотаздымках, але вельмі ганаруся табою. Я лічу, што твая перамога — гэта мая перамога. Мая таму, бо ў мяне твая кроў і твой клопат пра Радзіму. Мой дарагі прадзед, ты менавіта той чалавек, каго мы ўзнёсла і з гонарам называем героем Вялікай Айчыннай вайны. Я вельмі люблю Радзіму, і мне так хочацца верыць, што мая чыстая, светлая, сінявокая Беларусь будзе не толькі самай прыгожай, але і самай мірнай, шчаслівай. Дзякуй табе за гэта!

*Хрысціна СЕВЯРЫН,*
*6 клас, СШ № 15, Баранавічы*





Анастасія Якавенка, 9 клас, СШ № 20, Мінск

*Напішы як Анастасія Якавенка – і станеш аўтарам калонкі!*

# Ліст да сяброўкі

Прывітанне, Віка! Як даўно я табе не пісала! Як ты жывеш? Ці ўсё ў цябе добра?

У мяне ўсё так, як і раней, толькі вось думкі з'явіліся, якімі хачу з табой падзяліцца. Учора я паглядзела дакументальны фільм «Джордж Харысан: жыццё у матэрыяльным свеце» пра аднаго з удзельнікаў рок-гурта The Beatles. Фільм змяшчае шэраг інтэрв'ю з блізкімі, роднымі і калегамі Харысана, а галоўнае, распавядае пра тое, як духоўныя пошукі сталі вельмі важнай часткай яго жыцця. Цяпер я ўвесь час разважаю, у якім свеце жыву, што мяне ў ім задавальняе, а што не, і як я магла б яго змяніць.

Калі параўноўваць два светы — той, які я сабе ўяўляю, і сучасны, у якім мы жывём, то другі мяне не захапляе… Ён прасякнуты агрэсіяй. Яна паўсюль. Разбэшчанасць, гвалт, незадавальненне жыццём — усё гэта так ці інакш прапагандуецца праз тэлебачанне, інтэрнэт і нават кнігі! Паўсюль на галоўным месцы ў людзей грошы, за якія можна купіць амаль што ўсё. І не мае значэння, якім спосабам людзі іх атрымліваюць. Паўсюль ідзе вайна, і не паміж краінамі, а на словах і ў пачуццях людзей. Мы не заўважаем тых, хто побач, не імкнёмся дапамагаць, не давяраем адно аднаму і коса глядзім на тых, у каго ўсё добра. Дурныя спакусы не даюць некаторым спакою. Хіба гэта годнае жыццё?





Напэўна, многія згодны са мной, хлопцы і дзяўчаты мараць жыць і сталець у іншым свеце. У якім свеце хацела б жыць я?

Так, я ведаю, што не бывае святла без ценю, дабра без зла, але мару, каб мы былі дабрэйшымі — да іншых і да саміх сябе. Я веру, што аднойчы людзі прачнуцца і зразумеюць, што для таго, каб змяніць свет, трэба змяніцца самім.

Канешне, і я не выключэнне. Мне таксама трэба працаваць над сабой: старацца развіваць у сабе цярплівасць да людзей, нават тых, хто нечым не падабаецца ці раздражняе, змагацца з уласнай лянотай і г. д.

Увогуле, для таго, каб зразумець, якім павінен быць жаданы свет, трэба яго пабачыць, таму я мару ў будучыні, калі атрымаю вышэйшую адукацыю, паездзіць па свеце і паглядзець на яго з усіх бакоў.

Што ты пра ўсё гэта думаеш? Ці згодна ты са мной?

Час развітацца. Не забывай мяне і пішы часцей.

*Твая лепшая сяброўка Настасся.*

*Напішы як Лізавета Сяцко — і станеш аўтарам калонкі!*

# 8 спосабаў не страціць сяброў



*Лізавета Сяцко, СШ № 12, Гродна*

Мы так шмат часу бавім у сеціве, што, калі да нас прыходзяць сябры, не ведаем, што з імі рабіць. Дайшло да таго, што разам нам сумна! Сядзім, кожны ў сваім гаджэце, адказваем неўпапад, амаль не чуем адно аднаго! Практычна чужыя людзі. А сяброўства, тым часам, — гэта ж адна з базавых каштоўнасцей і патрэб! Захаваць яе варта любой цаной. Прынамсі, можна абысціся і без ахвяр.

Прапаную восем спосабаў правесці час з сябрамі.

**1.** Разам спячы нешта смачнае. Тым, хто не ўмее важдацца з цестам, прапануйце ваш кулінарны экспромт упрыгожыць.

**2.** Дапамагчы таму, каму патрэбна дапамога. Лепшы спосаб падарыць сабе добры настрой — падарыць яго іншым. Можна купіць мех цукерак і аднесці ў бліжэйшы дзіцячы дом. Распавядзіце дзеткам вясёлую гісторыю і разам пасмейцеся над яе развязкай.

**3.** Пабыць турыстам або экскурсаводам у сваім населеным пункце. Можна распрацаваць цікавы маршрут для сяброў. Яшчэ лепей — прыдумаць квест. Гэта выдатная ідэя, каб ведаць больш пра сваю мясцовасць і хоць на час адчуць сябе дэтэктывам. Прытым, гэта зусім нічога не каштуе.

**4.** Схадзіць у кіно, але не проста так, а з абавязковым абмеркаваннем фільма адразу пасля сеанса. Можна абмяркоўваць сюжэт, паводзіны герояў, іх касцюмы ва ўтульным антуражы кавярні або дома.

**5.** Абвясціць турнір настольных гульняў. Або разам сабраць вялізны пазл.

**6.** Зладзіць флэш-моб. Ды які заўгодна! Можна ў горадзе або дома. Уяві: бацькі вяртаюцца з працы, а кампанія тваіх сяброў глядзіць кіно. І раптам уключаецца музыка і вы з сябрамі пачынаеце танцаваць, жангліраваць рэчамі, дэкламіраваць вершы… Гэта будзе прыемны сюрпрыз, а пра такую прыгоду вы яшчэ шмат разоў успомніце. З бацькамі за гарбатай, з сябрамі па тэлефоне.

**7.** Зладзіць вечар успамінаў. Згатуйце смачную гарбату. Сервіруйце стол. Запаліце свечкі. Прапануйце сябрам прынесці свае фотаздымкі і відэа. Абмяркуйце самае цікавае з прынесенага. Такія хвіліны збліжаюць і вучаць цаніць сяброў і ўсе моманты, пражытыя побач з імі.

**8.** Згуляць у «Што мы будзем рабіць сёння». Сутнасць простая: кожны ўдзельнік запісвае на паперцы, чым бы яму хацелася заняцца. Запіскі збіраюцца ў торбачку, а потым адзін з сяброў выцягвае запіску — і гэта ваш план на дзень. Можна памяняцца планамі і дамовіцца пра абмен паведамленнямі — пра тое, што каму і як удасца ажыццявіць.

Ты можаш працягнуць гэты спіс. Упэўнена, для сяброў у цябе знойдуцца цікавыя прапановы.

# Цзяньшыцзы,

## што ў перакладзе азначае «выбіранне каменьчыкаў» (каменьчыкі можна замяніць на гузікі*)



Гуляюць двое (як у шашкі), перад імі — дзве кучкі каменьчыкаў (у якіх колькасць каменьчыкаў неаднолькавая). Кожны па чарзе бярэ каменьчыкі: альбо з адной кучкі колькі заўгодна (хоць усе), альбо з абодвух пароўну. Выйграе той, хто бярэ апошні каменьчык.

«Занадта проста!» — скажаце вы. Сапраўды, на першы погляд гульня здаецца нават прымітыўнай. Але гэта гульня-стратэгія! Абдумваць хады тут трэба не менш чым у шашках! Паспрабуй згуляць — і ўпэўнішся**.

Да прыкладу, калі той з удзельнікаў, які пачынае гульню, зграбастае адразу ўсе каменьчыкі з адной кучкі, то ён адразу ж прайграе, бо другому дастаткова будзе забраць цалкам другую кучку (а значыцца, і самы апошні каменьчык). А калі першы забярэ з адной кучкі ўсе каменьчыкі без аднаго, то другому ўжо будзе не так проста вызначыцца. Няхай ён забірае ўсе каменьчыкі з другой кучкі — гэта адразу ж пройгрыш, бо першаму застанецца толькі забраць адзін каменьчык, што застаўся ад першай кучкі. Калі другі пакіне у другой кучцы таксама адзін каменьчык, то ён зноў-такі прайграе, бо першы проста забярэ абодва апошнія каменьчыкі (роўную колькасць з розных кучак). А вось калі ў адказ на пакінуты ў першай кучцы каменьчык другі ўдзельнік пакіне ў сваёй кучцы два каменьчыкі — ён выйграе, бо саперніку давядзецца зрабіць адно з чатырох вымушаных дзеянняў:

а) узяць адзін каменьчык з першай кучкі (пройгрыш!)

б) узяць адзін каменьчык адтуль, дзе іх два (пройгрыш!)

в) узяць абодва каменьчыкі з другой кучкі (пройгрыш!)

г) узяць па аднаму каменьчыку з кожнай кучкі (таксама пройгрыш!).

Бачыш? У такой простай на першы погляд гульні трэба, як кажуць, мазгавымі звілінамі добранька паварушыць.

---

****Толькі не зразай іх з татавага адзення, бо і табе пападзе, і «Бярозцы» — за тое, што з гульнёй гэтай цябе пазнаёміла!***

*****А калі дашлеш апісанне якой-небудзь цікавай гульні, то атрымаеш яшчэ і прыз ад часопіса!***

*Непрыдуманыя гісторыі*

# Вельмі далікатная тэма

*Аўтар рубрыкі Галіна Богдан*



У чатырнаццаць Наста адчула сябе дарослай. І ўгаварыла, нарэшце, маму купіць ёй туфлікі на «шпільках». І вельмі стыльныя джынсы. Мама нядоўга супраціўлялася. На 1 верасня ў Насты ўжо быў доўгачаканы ўбор. Як было ім не здзівіць аднакласніц? І яна здзівіла.

Перад «лінейкая» прадчувала трыумф. Але павярнулася інакай…

— Ты з якой пальмы спусцілася, Бараноўская? — у класнай, як на тое, здарыўся дрэнны настрой. — Гэта па-твойму дзелавы стыль?

— Ну… Раіса Пятроўна, — заміргала Наста старанна падфарбаванымі павекамі — калі рабіцца дарослай, дык ужо па поўнай праграме. — Сёння ж свята. І я дазволіла сабе апрануцца святочна.

— Бачу, што дазволіла. З якой прычыны? Я ж папярэдзіла яшчэ ў маі: строга дзелавы. А гэта? Барані Божа, дырэктар убачыць! Або госці…

«Лінейку» Наста правяла ціхенька, у куточку, у кампаніі з настроем, перададзеным ад класнай. Аднакласнікі пастрэльвалі ў бок выгнанніцы спачувальна-дакорлівымі поглядамі. Самае непрыемнае ў сітуацыі было тое, што ніводная дзяўчынка не ўважыла зайздрасцю. А разлік жа рабіўся менавіта на гэта. Ну, і яшчэ на нештачка…

— Ні разочку не глянуў, — шморгнула Наста носам, выглядаючы ў натоўпе старшакласнікаў сваю сімпатыю. — Быццам не для яго старалася.

Алег вучыўся ў дзясятым. Займаўся ў секцыі атлетыкі, граў на гітары на школьных канцэртах і заваёўваў прызавыя месцы ў прадметных алімпіядах. Як такім не захапіцца! І яна захапілася. Паўгода хадзіла кругамі вакол. Спрабавала сябе ў тых канцэртах. Імкнулася разабрацца ў мудрагелістай фізіцы. Цяпер вось джынсы з туфлікамі ў мамы выпрасіла. А гэты… Стаіць сабе, як… невядома хто. З дзяўчаткамі перасмейваецца.

— Ну і няхай! Бач ты, пуп зямлі! — ускінула Наста пачырванелы носік. — Перажыву. А яшчэ лепш — памяняю школу. Каб усялякія там фанаткі дзелавога стылю кусалі сябе за локці: як гэта мы нашу старасту праміргалі. Самі няхай дзяжурствы размяркоўваюць, талончыкі ў сталоўку носяць. Яшчэ не адзін раз пашкадуюць, што не прынялі новы імідж. Па апратцы сустракаюць! Добра… Школ у горадзе шмат, уладкуюся без праблем. І імідж захаваю.

Яна выцягнулася ў струну, страсянула шаўковымі, так удала накручанымі пасмачкамі. І пайшла. За спінай пачула апладысменты. Загучала кранальная мелодыя, у пералівах якой пачуўся званок. Першы ў новым навучальным годзе…

***Дружа! Наста так і не прыняла канчатковага рашэння наконт пераходу ў новую школу. Ды і ці варта? У старой яна пакідае сяброў і сяброўак, добра знаёмыя традыцыі. І настаўнікаў, да якіх прывыкла. Што яе чакае? Хочацца ведаць вашы меркаванні і парады.***

***Каментарыі***

***Шкодная настаўніца:***

— Знайшла праблему! Сказана — дзелавы стыль, значыць, носім дзелавы. Не думаю, што вам спадабалася б, калі настаўніца прыйшла б на ўрок у шчыльненькіх джынсах і топіку да пупа. Ды ваша Наста першая б сказала: «Фу!» Школа — гэта сур’ёзная ўстанова, а не клуб. Таму — будзьце ласкавыя. Дарэчы, мужчынам усё роўна дагадзіць нельга, не варта і старацца. Хоць якія там мужчыны ў чатырнаццаць гадоў. Знайшлася, ты ж разумееш, Джульета! А тая, між іншым, прытрымлівалася прынятага ў яе грамадстве стылю. Вы можаце сабе ўявіць Джульету ў джынсах-клубоўках? Вось-вось. Дык пра што я? Так, пра Шэкспіра. Майце на ўвазе: заўтра тэст па сусветнай літаратуры. Не спазняемся!

***Прасунуты старшакласнік:***

— Вось ужо гэтыя дзяўчаткі! Вецер у галаве. І ніякіх уяўленняў пра мужчынскую псіхалогію. Знайшла дзе хлопца спакушаць. І чым! Сама ж казала:

спартсмен, артыст, інтэлектуал. А сама выбрала трывіяльную стратэгію. Ды твой Алег хутчэй на белую сарочку з гальштукам зверне ўвагу. У школе, прынамсі, дакладна. А яшчэ лепей — на акуляры. Прыкінь, дзяўчынка ў строгім дрэс-кодзе з класічным пучком на галаве. І ў акулярах з рагавой аправай. Стыльна. Загадкава. Прыцягальна. Не верыш? А ідзі папытай у яго! Я ведаю, што кажу. Захапі яго нечым, што для яго важнае. Здзейсні навуковае адкрыццё. Вывучы лацінаамерыканскі танец і папрасі яго акампаніраваць. У алімпіядзе сама яго перамажы! Ды не гэта галоўнае. Навошта ты ўвогуле ў школу ходзіш? Не абновы ж дэманстраваць — вучыцца. Дык вучыся. Сама ж не хацела, каб па апратцы сустракалі. Грызі граніт навукі, пакуль маеш час. А хлопчыкі… Будуць яшчэ. Не адзін. Што я вас, дзяўчат, не ведаю ці што? Школамі, сяброўка, не раскідваюцца. Іх берагуць. А табе, мяркуючы па аповедзе, нядрэнная трапіла. Класная вунь якая крутая! Адразу праблему разруліла. Цяпер коратка пра галоўнае. Мая парада: заўтра апранайся ў спадніцу з сарочкай і шуруй у школу! Грызі… Не, гэта я ўжо казаў. Вучыся, адным словам. А джынсы і шпількі пакінь на лепшы час. У кавярню з хлопцам прайсціся. Ці на вечарынку ў клуб. Ты цяпер дарослая дзяўчынка. Павінна разумець, што да чаго. Прывітанне! Знікаю.

***Сімпатулька:***

— Так, цяжка нам, дзяўчаткам, укладацца ў існуючыя нормы. Такое адчуванне, што школьныя правілы прыдумляе нейкі адчайны ненавіснік дзяўчат, далібог! То спадніцы кароткія не падабаюцца, то абцасы высокія. Літаральна манастыр зрабілі! Гэта я раней так думала. Пакуль у банк не трапіла. Ведаеш, мару стаць фінансістам. Сядзіш сабе ў цяпле, кіпцікамі па клавішах паляпваеш. А побач кліент марнуецца. Увесь пад тваёй поўнай уладай. Выбрала, інакш кажучы, сабе прафесію. І пайшла пазнаёміцца з ёю бліжэй. Прыходжу. Дзяўчаткі як з-пад капіркі — строгія, падцягнутыя. Спаднічкі ледзь-ледзь вышэй каленцаў, сарочкі беленькія да апошняга гузічка зашпіленыя. Бэйджыкі пабліскваюць. Гальштучкі з лагатыпам. Манастыр? Не і не. Вельмі жывапісны малюнак! І вельмі спакуслівы. Хлопцы заходзяць. Ацэньваюць. Ніякавеюць. Перад джынсамі б не зніякавелі, ці ж я іх не ведаю! І што самае крыўднае, на мяне — нуль увагі! Хоць я пры поўным парадзе ў той банк заявілася.

Карацей, тры дні хадзіла пад уражаннем. Потым па інтэрнэце прайшлася. Са стылямі рознымі пазнаёмілася. Знайшла сабе альтэрнатыву. Галоўнае, што зразумела: у любым стылі можна знайсці сабе прымальны варыянт. Белая сарочка здаецца табе сумнай — дадай шалік, бант ці брошку: сяброўкі абзайздросцяцца! Спадніца даўгаватая? Да яе пасуюць карункавыя панчошкі. Ды яна і больш зручная! Праверана! Абцасік нізкаваты? Навошта паўмеры? Бяром балеткі або макасіны! Ды што я тут распаўсюджваюся… Удачы! І не надумайся кідаць сваю школу! У чужой лепш не будзе. Там свае парадкі. Памятаеш статус з нэту: «Добра там, дзе нас няма. Але мы там будзем. І ўсё сапсуем». Вось і сядзі на месцы, сонейка. Ну ці не праўду кажу?

***Першакласнік з яблыкам:***

— А мне спадабалася. Асабліва джынсы. Літаральна як у Beyonce! Яблычак хочаш?

*Інтэрактыўны праект, у якім можа прыняць удзел кожная школа краіны*



# Школьнае каханне: усё та-а-ак сур'ё-ё-ёзна!

*Каму:*
- *Настаўнікам*
- *Бацькам*
- *Вучням*

Размовы пра каханне ў сценах школы № 38 Мінска вядуцца не толькі на перапынках, але і на ўроках (дзяўчаткі перашэптваюцца), і нават у настаўніцкай!

Настаўнікі заводзяць размовы пра каханне ў сваім кабінеце! Вось і зараз там далёка не шэптам (таму і ўдалося падслухаць) абмяркоўваюць нечыя пачуцці ***Кацярына Юр'еўна Дошчачка***, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, і ***Ірына Канстанцінаўна Шніткоўская***, педагог-псіхолаг.

***К. Ю.***: — Ох, як мяне раздражняе, калі я, настаўнік, іду па школьным калідоры, а якая-небудзь парачка не адчувае сябе няёмка, цалуючыся на маіх вачах! Зусім няма тармазоў. Ніякіх межаў!

Мой тата сустрэў маму ў дзявятым класе (перайшоў у іншую школу). Яна вельмі доўга ад яго бегала, не хацела ніякіх стасункаў. Доўга дабіваўся ён нават таго, каб яна даверыла яму насіць падручнікі. Скончылі школу, адвучыліся, ажаніліся, жывуць, дзякаваць богу, у каханні. А зараз каханне перастала быць чыстым.

*І. К.*: — Пагаджуся з вамі. Не ўсе ўмеюць кантраляваць свае пачуцці і ведаюць, дзе іх можна дэманстраваць, а дзе не. Часам і ў школе праяўленні эмоцый пераходзяць дазволеныя межы. Але ж закаханасць — гэта станоўчая рэч, якая робіць жыццё і свет навокал прыгожым, прымушае (асабліва хлопцаў) мяняцца — лепей выглядаць, здзяйсняць прыгожыя ўчынкі…

*К. Ю.*: — Так, каханне больш дапамагае, чым замінае. З ім лепей атрымліваецца вучыцца, займацца яшчэ чым-небудзь, каб паказаць сябе з лепшага боку аб'екту сваіх пачуццяў. Але ж некаторыя робяць наадварот — прыцягваюць увагу праз шкоднічанне: пабіцца з кім небудзь… А калі дзяўчынка-выдатніца закахалася ў хлопца-хулігана? Што з гэтым рабіць? І без увагі нельга пакінуць, але і не нашкодзіць сваім умяшальніцтвам — ве-е-ельмі складана. Не загадаеш жа: «Не кахай». Можна забараніць тэлефон на ўроку даставаць, можна забараніць спазняцца… Забараняць пачуцці — немагчыма. Можна толькі даць параду, да якой вучань прыслухаецца ці не — гэта ўжо яго справа. Быў у мяне выпадак: заўважыла ў сваім класе шкоднае, пошлае каханне. Зразумела, што трэба пра гэта паразмаўляць. Не ведаю пакуль, як далей пойдзе, але ў вочы, здаецца, яно ўжо так не кідаецца.

*І. К.*: — Маеце рацыю, Кацярына Юр'еўна. Вырашаць гэту праблему трэба індывідуальна. Праз асабістую размову, ускосныя прыклады, на ўроках літаратуры на прыкладзе твораў — паказваць, як правільна і як няправільна хаваць і дэманстраваць пачуцці. Калі выказваць свае меркаванні пры ўсіх, гэта выклікае агрэсію, крыўду, непаразуменне. Педагогі, узгадайце, якімі вы былі самі ў гэтым узросце!

*К. Ю.*: — Некаторыя настаўнікі, бачачы такія адносіны, увогуле нічога не робяць — абыякавыя да таго, што адбываецца з дзецьмі па-за ўрокамі і па-за школай. Некаторыя ўвогуле ў сваім меркаванні абмяжоўваюць якасці асобы толькі паспяховасцю ў школе. А раптам чалавек не ўмее граматна пісаць, але добра малюе? Гэта ж не значыць, што ён дрэнны!

Дзеці, дарэчы, больш лаяльныя, яны разумеюць пачуцці сваіх аднакласнікаў. Дапамагаюць сядзець разам, напрыклад. Могуць па сакрэце распавесці мне, хто каму ў класе падабаецца. Хоць некаторыя дзяўчаткі, напэўна, крыху зайздросныя: «Чаму ў яе ёсць хлопец, а ў мяне няма? Я ж таксама хачу, каб мяне абдымалі на перапынках!».

А неўзаемнае каханне? Гэта такое спрэчнае пытанне… Часам так замінае, так псуе няшчаснаму школьніку жыццё (натуральна, што перажываць гэта складана)… А калі пераключыцца на нешта новае, калі не думкамі, то хаця б знешне? Хадзіць у кіно, тэатры, наведваць якія-небудзь курсы. Як мага шчыльней забіваць свой час рознымі цікавымі справамі. З цягам часу каханне не забудзецца, але рана ад яго, неўзаемнага, хоць крыху зацягнецца.

*І. К.*: — Што рабіць з неўзаемным каханнем? Адзіны варыянт — шукаць узаемнае! Важна ўсведамляць, што неўзаемным яно можа быць не таму, што ты дрэнны, а таму, што вы не падыходзіце адно аднаму. Але абавязкова знойдзецца той, які падыдзе.

Нават закаханасць у кінаакцёра ці іншую «зорку» — гэта добра, бо дае вопыт. Вядомая асоба — гэта вобраз, у якім дзяўчаткі ўвасабляюць свае ўяўленні пра ідэальнага маладога чалавека. Але вобраз можа адрознівацца ад рэальнасці. Хоць менавіта дзякуючы такім вобразам, намагаючыся наблізацца да яго свету, дзяўчаткі вучацца, напрыклад, як правільна даглядаць сябе, што такое жаноцкасць і прыгажосць, што рабіць, каб падабацца хлопцам, і чаго рабіць нельга. Гэта такая павучальная гульня, але тут галоўнае — не загуляцца.

***Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***



# Аўтаспын: падарожжа ў пошуках свабоды

***Кажуць, што падарожнічаць аўтаспынам небяспечна і цяжка. Іван Васарэнка, «спыншчык» са стажам, магчыма, лічыць іначай. Зараз даведаемся.***

**— Раскажы, чым ты займаўся да таго, як пачаў падарожнічаць аўтаспынам?**

— Я звычайны хлопец. Асаблівых захапленняў не маю. Вучоба-дом-вучоба, але магчымасці павесяліцца не прамінаю. Мне падабаўся скейт, роўпджампінг (скачкі з вяроўкай з высокага аб'екта). Люблю плаваць, з'язджаць на ровары за шмат кіламетраў ад горада — тады з'яўляецца адчуванне свабоды. Увогуле, я займаўся пошукам гэтага адчування.

**— Што прывяло цябе да падарожжаў?**

— Выпадак. Я пабыў з сябрамі на рэканструкцыйным фэсце ў Мірскім замку, мы затрымаліся там на два дні. Увечары недалёка ад нашай палаткі праходзілі хлопец і дзяўчына. Яны лавілі машыны, але беспаспяхова. Мы прапанавалі ім месца ля вогнішча, Яны напаілі нас смачнай індыйскай гарбатай. Потым разбілі палатку побач з намі. Раніцай мы ўжо ехалі з імі спынам у Энергетык, каб паглядзець тарфяное возера ў лясных гушчарах. Так яны паказалі мне, што значыць спын і як не залежаць ад сродкаў і часу. Мне тады было шаснаццаць.

**— А не страшна так падарожнічаць? Ці даводзілася спаць каля дарогі?**

— Гэта пытанне я часта чую ад кіроўцаў, акрамя дальнабойшчыкаў, бо яны да аўтаспыншчыкаў прызвычаіліся. Я заўсёды адказваю пытаннем: «А ці не страшна падбіраць на дарозе незнаёмых людзей?» Я даўно зразумеў, што баяцца няма чаго: дрэнныя людзі не спыняюцца, каб бясплатна падкінуць падарожніка.

**— Якія краіны ты паспеў наведаць, што табе ў іх запомнілася?**

— Краін не так шмат: Беларусь, Расія, Казахстан, Украіна. Кожная цікавая, асабліва людзьмі.

**— А якое падарожжа ты запомніў больш за ўсё і чаму?**

— Падарожжа па Расіі і Казахстане летам 2014-га. Каб запомніць яго, было шмат прычын: Байкал, Алтай і Карпаты, скалы Краснаярскіх Сталбоў і Крыма, бязмежны абшар Казахстана. Гэта запамінаецца надоўга. Калі вярнуўся дадому, не хацеў верыць, што ўсё скончылася. Было дзіўнае адчуванне, што знаходжуся недзе далёка ад дома. У такім тумане я прабыў тыдні

два. Так што апошняе падарожжа паўплывала на мяне вельмі моцна.

**— Ці здараліся кур'ёзныя выпадкі?**

— Аднойчы ў Іркуцку да нас падышла дзяўчына Аня і спытала: «Хлопцы, вы спыншчыкі?» Гэта адбылося ў кавярні, куды мы прыйшлі, каб памыцца, прывесці сябе ў парадак і злёгку перакусіць. Яна папрасіла нас дапамагчы ёй дабрацца да Новасібірска, дзе жыла яе бабуля. Сама ехаць аўтаспынам баялася. Мы вырашылі, што гэта знак зрабіць добрую справу. І сапраўды гэта быў знак: ехаць утрох дзве тысячы кіламетраў вельмі цяжка, але нас адразу падабраў кіроўца на УАЗіку, згрузіў сумкі, мы размясціліся ў кабіне. Калі кіроўца Федзя сказаў, што едзе наўпрост у Новасібірск, мы зразумелі, што зрабілі правільна, узяўшы з сабой Аню. Выпадковасці выпадковыя.

**— Як ты выбіраеш краіну для падарожжа?**

— Я выбіраю краіну, як ў фільме «Ёсць мары — будуць і падарожжы». Хачу ўбачыць Чорнае мора або Паўночнае ззянне ў Мурманску — еду туды, хачу паспрабаваць кумыс і курдзюк — еду ў Казахстан. Астатняе з'яўляецца ў дарозе, напрыклад, гарады, прырода, цікавыя месцы — усё гэта нельга ўбачыць на аўтобуснай экскурсіі. А ў дарозе мясцовыя жыхары могуць падзяліцца каштоўнай інфармацыяй. У мяне шмат ідэй для падарожжаў, быў бы час. Хачу пабываць у Грузіі, на Камчатцы, на Сахаліне і ў Індыі.

**— Якое месца ты мог бы парэкамендаваць для першага падарожжа?**

— Трэба пачаць з Беларусі, бо ў нас ёсць на што паглядзець. Напрыклад, забытыя замкі ў Гальшанах і Ружанах, Браслаўскія азёры, крэйдавыя кар'еры ў Ваўкавыску. А наогул, можна выехаць з любой кропкі ў любым кірунку. Усё залежыць ад інтарэсаў.

**— Дзе лепш за ўсё спыняцца? Я маю на ўвазе каўчсёрфінг, хостэл і іншае.**

— Лепш за ўсё каўчсёрфінг. Гэта калі спыняешся ў людзей, з якімі знаёмішся ў дарозе. Часцей за ўсё людзі трапляюцца вельмі цікавыя і дабрадушныя. У мясцовых можна даведацца пра горад і цікавыя нефармальныя месцы, пра якія на экскурсіях не згадваюць.

**— Якія якасці пасажыра найбольш важныя для такіх падарожжаў?**

— Самая галоўная якасць — уменне ніколі не сумаваць, не падаць духам. Калі з'яўляюцца сумненні, гэта адбіваецца на поспеху падарожжа. Таму лепш ехаць з чалавекам, якога ведаеш даўно. З адной з маіх спадарожніц, яе клічуць Саша, мы пазнаёміліся на форуме, а сустрэўшыся пару разоў у рэале, пакавалі заплечнікі. Пара «хлопец і дзяўчына» мае значна больш шанцаў знайсці транспарт.

**— Што ты адчуваеш, выпраўляючыся ў падарожжа і вяртаючыся дадому?**

— Пры адпраўленні я дранцвею, хачу проста з'ехаць. Калі перасякаю беларускую мяжу, з'яўляецца пачуццё далечыні. І чым далей ты едзеш, тым больш адзінокім і ні да чаго не прывязаным адчуваеш сябе. Вярнуўшыся дадому, адчуваю хваляванне. Хочацца ўсіх убачыць, даведацца, што змянілася...

**— Колькі грошай ты траціш падчас падарожжа?**

— У асноўным грошы трацяцца на ежу, але тут усё залежыць ад пражэрлівасці спадарожніка. Гарадскі транспарт адымае шмат, яшчэ канатныя дарогі, пераправы, сплавы. У апошні раз, мне хапіла 5 700 расійскіх рублёў на 2 месяцы.

*Гутарыла Вераніка ГАМЗЮКОВА*

# Пасябраваць з прусаком? Проста!

***Пасля інтэрв'ю з Іванам Вісарэнкам, вандроўнікам-аўтастопшчыкам (глядзі, дружа, папярэднія старонкі), «Бярозка» завітвае да яго ў госці. Пра свае рэчы Іван распавядае гэтаксама захоплена, як і пра аўтаспын.***



Прусак Яраслаў — мой сябар. Нядаўна яму афіцыйна споўніўся адзін год пасля апошняй ліпькі. Неяк мой сябар прынёс да мяне ў пакой Яраслава, яшчэ лічынкай, са словамі: «Няхай пажыве ў цябе, у мяне іх ужо занадта шмат». На фота Яраслаў есць і прымае «душ», таму што прусакі любяць вільготнасць.



Габелен мне падарылі на дзень нараджэння. На ім намаляваны Крышна і гопі (дзяўчынка-пастушка) на беразе свяшчэннай ракі Ганг у Урindаване (Індыя). Малюнак настройвае на рэлаксацыю, заклікае да прымірэння. Акрамя таго, калі ўзірацца ў дэталі карціны, можна пачуць прыемны тонкі пах, які выходзіць з нірваны.



Самы першы пірс у вуха стаў маім любімым атрыбутам вонкавага выгляду. Зараз пірсы ўжо даўно сталі звыклым аксэсуарам. Можна сказаць, што я плыву па хвалях мэйнстрыму, але мяне гэта не бянтэжыць.

Бранзалеты падарылі сябры. Адзін (Freedom) быў прывезены з Грушынскага фестывалю бардаўскай песні. Ён праходзіць штогод пад Тальяці. Другі — з фестывалю «Шыпіць», які праходзіць на свята Івана Купалы ў Карпатах. Абодва з'явіліся ў мяне ў 2012 годзе. На «Шыпіць» я паехаў ужо ў 2014-м і, зразумела, у гэтым бранзалеце. Засталося пабываць на Грушынскім фестывалі, каб бранзалеты былі «выкарыстаныя» па поўнай.






Магніты заўсёды нагадваюць пра тыя месцы, дзе я быў. Кавалак матэрыяльнай памяці. А вольнае ад магнітаў месца на халадзільніку так і кліча ў дарогу.

***Падрыхтавала Вераніка ГАМЗЮКОВА***

# Поры года




Сярэдзіна зімы. Вакол пануе сцюжа.
Ды гэта не заўжды ў апошнія гады.
Дажджы змываюць снег. І вераб'і ля лужын
Не хочуць гараваць, што зніклі халады.

Ім хочацца вясны, але ж вясны няма.
Бо студзень на двары. І вернецца зіма.




У лютым маразы. Зіма ізноў лютуе:
Сумёты намяла, сцяжынкі замяла.
Ды маразы зіму наўрад ужо ўратуюць.
Яна ўжо тэрмін свой амаль што адбыла.

І зранку на двары спяваюць капяжы:
— Дрыжы, зіма, дрыжы! Бяжы, зіма, бяжы!




Самотны сон бяроз прагнаў раўчук з усмешкай,
Салодкі сок бяроз бруіцца раўчукамі.
Пралескавы блакіт па сцежках і па ўзмежках
Пасеяла вясна пяшчотнымі рукамі.

І дружна жаўрукі над полем узлятаюць,
І песнямі шпакі прыход вясны вітаюць.




Змянілася за ноч чаромха-чараўніца,
І чарамі яе акутая зямля.
Світанак п'е расу, нібы ваду з крыніцы,
І чорны небакрай святлее спакваля.

І ўспыхнуў небакрай ад краю і да краю,
То сонца край зірнуў з-за небакраю.




Праз водар веснавы, праз ветрыка павевы
Апошні водблеск дня хаваецца ў траве.
Выводзяць салаўі пяшчотныя напевы
І месяц малады сярэбрана плыве.

Ён ведае адзін, як хуткаплынна гэта.
Ён бачыў, як вясна спяшаецца да лета.




Згінаецца змяёй сцяжынка сярод бору
І цягнуцца ў блакіт мядовыя ствалы.
Сунічны водар траў, духмяны пах чабору,
Смалісты пах сасны, сасновы пах смалы...

Знаёмы бор ізноў змяніў сваё аблічча.
І ўсё далей, далей мяне сцяжынка кліча.




Дождж паступова сціх. Звініць раўчук вя-
сёлы.
Вясёлкавы паўкруг над рэчкаю ўстае.
Над галавой маёй ізноў шчыруюць пчолы,
Ім ліпа-гаспадар духмяны мёд дае.

Ды ўсіх пачаставаць яна не паспявае...
А ў лесе шмат суніц, маліна паспявае.




Начныя туманы бялей бялюткай ваты.
Начныя халады — яшчэ не халады...
Апошні летні дзень... хіба ж ён вінаваты,
Што лета разам з ім знікае ў нікуды!

Зямны кругаварот змяніць ніхто не зможа,
І верасень ужо стаіць на раздарожжы.




Ад ранку грыбнікі шыбуюць за грыбамі.
(У верасні амаль усе мы грыбнікі.)
Сядзяць баравікі пад елкамі, дубамі...
Куды не зазірні — адны баравікі!

І я ў суседні лес трымаю накірунак,
Ад лета атрымаць апошні падарунак.



*кастрычнік*

Кастрычніцкая ноч вятрамі адспявала,
Апошніх журавоў адправіла ў палёт,
У колер залаты лясы афарбавала,
На жоўтую траву паклала хрусткі лёд...

Адыдзе хутка ноч, світанак адляціць...
І першай шэранню трава зазіхаціць.



*лістапад*

Апошні жоўты ліст галінку пакідае,
Стракатым матылём імчыцца ў нікуды...
І самы першы снег павольна ўніз злятае,
І лужыны блішчаць, нібыта са слюды.

І вось ужо вакол бялюткая пустэча...
Тут восені з зімой прызначана сустрэча.



*снежань*

Люляюць маразы знямелую прыроду,
А дні ўсё карацей, а ночы ўсё даўжэй.
І Новы год ідзе... і да яго прыходу
Бліжэй чым да вясны, у шмат разоў бліжэй...

Ён будзе мішурой на ёлках зіхацець...
І будуць дні даўжэць, а ночы карацець.

***Генадзь АЎЛАСЕНКА***
***Мастачка Алеся ГАЛОТА***

***Генадзь Аўласенка — сучасны беларускі пісьменнік. Піша вершы, п'есы, празаічныя творы і шмат чаго для дзяцей. Нездарма з'яўляецца рэдактарам «Бярозкі».***

# Прынцэса

*Маленькая аповесць з прызнаннем і загадкай*

У суботу вечарам Мішка Сідарчук на асфальце перад домам Алёнкі намаляваў крывавае сэрца і напісаў: «Тибе моя принцэса». Сэрца — гэта, усім зразумела, каханне. І падпісаўся — Пельмень. У нядзелю раніцай яна выйшла на лоджыю рабіць зарадку і, канешне, адразу ўбачыла гэта прызнанне. Вельмі раззлавалася: бязграматнае прызнанне. Не па-руску і не па-беларуску. Нават коску не паставіў. Зразумела, ёй, выдатніцы, гэта зусім не падабаецца. Крывавае сэрца таксама не па душы. Ну, і галоўнае, увесь дом зразумеў, што прызнанне — ёй. Канешне, дом вялікі, прынцэс шмат, але Алёнка самая прынцэсная з усіх прынцэс. «Дурань! — сказала яна Мішку ў панядзелак. — Ты хаця б у слоўнік зазірнуў! Ты мяне зганьбіў!» А Мішка ўсміхаўся, як быццам яна таксама прызналася яму ў каханні.

Нават настаўнікі прыходзілі падзівіцца. Настаўнік матэматыкі пацiснуў плячыма і сказаў: «Дурната», настаўнік малявання: «Бяздарна», а Варвара Яфімаўна, «русіца», пляснула ў далоні і сказала: «Божа, і гэта мой вучань!» Гэта яна, зразумела, пра памылкі. І нават дырэктар, які быццам выпадкова праходзіў міма, сказаў: «Зняславіў школу!»

Напісаў сваё прызнанне Мішка позна ўвечары, але, як высветлілася, былі сведкі, расказалі бацьку, што сын уцюрыўся, і Мішка атрымаў па шыі. Ну, Мішку да гэтага не прывыкаць — пачасаўся і забыўся. Галоўнае, добры настрой, а настрой ніяк ад тумакоў не залежыць. Ён не залежыць нават ад таго, што сказала Алёнка.

Увогуле каханне ў восьмым класе — справа сур'ёзная. У класе дваццаць восем чалавек — усе, так атрымалася, былі закаханы адно ў аднаго. Такі вось скрыжаваны агонь. А вось Лёха Касценчык быў закаханы ва ўсіх дзяўчынак свайго класа, але гэтага яму падалося мала, ён закахаўся і ў нашу Алёнку. Добра было б надаваць яму за гэта па шыі, але дурням закон не пісаны, а Алёнка на яго, як гаворыцца, нуль увагі, фунт пагарды. На ўсялякі выпадак мы яму сказалі: «Глядзі, як бы Пельмень табе не падкінуў». «Хто? Пельмень? Мне? Ды я…» Але тут з-за вугла паказаўся Пельмень і канфлікт захлынуўся сам па сабе.

Мянушку такую Мішка атрымаў яшчэ ў сёмым класе. Чаму — невядома. Хутчэй за ўсё, таму, што слова гэтае для яго замест лаянкі. Іншыя кажуць: «Блін!..» А Мішка: «Пель…мень!» Прыляпіў яму гэтую мянушку Юра, і цяпер ужо ніхто не кліча яго Мішкам, усе гавораць Пельмень. Нават Алёнка. Нават іншы раз настаўнікі. Нават дырэктар школы. Хаця, пра гэта я раскажу пазней. Што датычыць Алёнкі, то Мішка нават рады, калі дзяўчына гаворыць «Пельмень». Што тут скажаш: трапяткія пачуцці.

Але хопіць пра каханне.

Я лепей раскажу вам пра тое, як мы гулялі ў футбол з восьмым «Б». Людзей сабралася — уся школа. Справа ў тым, што мы ўжо ўсіх абыгралі, нават старэйшыя класы, засталося высветліць, хто з нас мацнейшы. І, зразумела, адны хварэлі за нас, другія — за іх. Крык і свіст стаяў, як на стадыёне Уэмблі. Ці на Маракана. Ці ў Луж-

ніках. Але пра ўвесь матч не раскажаш, хіба што пра некаторыя моманты… Увогуле, лік быў 3:3, калі суддзя — Яўген Іванавіч, настаўнік фізкультуры — прызначыў пенальці ў вароты 8 «Б». А на варотах у іх стаяў Лёха Касцендчык. А біць пенальці вызначылі Пельменя, гэта значыць, Мішку Сідарчка. Ну, тут ужо ўсе і заціхлі: Лёха скача, як тая малпа, але ў Мішкі ўдар, як з гарматы. Тут усё і здарылася. Калі Мішка разагнаўся і нават нагу занёс для ўдару, Касценчык, які ўжо прыгнуўся для скачка, раптам павярнуў галаву да гледачоў: ці бачыць яго Алёнка? Ну, і атрымаў «гарматны» ў «дзявятку». Аднак суддзя гол не залічыў: удар да свістка. І ўсё адно Мішка вельмі заганарыўся: «дзявятачка» атрымалася што трэба. Ізноў паставіў мяч, павольна адышоў, а перад тым як разагнацца і ўдарыць, таксама знайшоў вачыма Алёнку. Вельмі можа быць, што яна ўсміхнулася яму. Таму што Мішка разагнаўся і… раптам так праараў буцай зямлю каля мяча, што пыл узняўся. А на стадыёне падняўся гогат. Такая вось атрымалася смешная нічыя. І Лёху, і Мішку пасля віншавалі тры дні. З'явіўся нават футбольны жаргон: стаіць, як Касцян, гаварылі, ці арэ, як Пельмень. Алёнцы таксама спадабалася. «Трэба было б на відэа зняць, — хіхікала яна. — Выкласці ў інтэрнэт. Запісаць у гісторыю школы». Але ўсё ж не пра футбол размова.

Прызнанне Сідарчука, канешне ж, адразу стала вядома ўсяму класу, а можа, і ўсёй школе. Тым болей, што словы «ты мяне зганьбіў» Алёнка вымавіла не адзін на адзін, не мімаходзь дзе-небудзь у калідоры ці на вуліцы, а ў класе, пры ўсіх. Аднесліся да яе слоў па-рознаму. Адны: на самай справе, рабіць чалавеку няма чаго, выпацкаў асфальт, другія — зганьбіў яе, прынцэсу-на-бульбіне, і розныя іншыя словы. Так раскрычаліся, што не пачулі званок на ўрок, не заўважылі, як увайшла класны кіраўнік, Ніна Леанідаўна. Яна



моўчкі пастаяла, паслухала і зразумела, у чым справа, што такое здарылася.

— Нічога дурнога я ў гэтым графіці не знаходжу, — сказала яна. — Мішку захацелася неяк выразіць свае пачуцці. У ранейшыя часы ў некаторых краінах, напрыклад, у Італіі, малады чалавек, калі сам не мог спяваць, наймаў музыкантаў, і яны выконвалі рамансы пад акном дзяўчыны.

Тут усе — і хто за, і хто супраць — так і грымнулі ад смеху. Нічога асаблівага Ніна Леанідаўна не паведаміла, мы такую карцінку не аднойчы ў кіно бачылі ці па тэлевізары, але ўсе ўявілі Пельменя з музыкантамі пад акном у Алёнкі і — паехалі. Ніне Леанідаўне, відаць, наш гогат не спадабаўся, але яна стрымалася.

Стэрлінгамі ў Англіі калісьці называлі сярэбраныя манеты, 240 такіх манет важылі 1 фунт. Адсюль і назва грашовай валюты Вялікабрытаніі — фунт стэрлінгаў.




— Іншая справа, што часам маладыя людзі падыходзяць адно аднаму, а часам — не. Я думаю, што пакуль Міша і Алёна не вельмі падыходзяць адно аднаму.

— Як гэта? — дзікім басам зароў Мішка. — Чым я горшы?

Вось цяпер у класе стала ціха.

— Нічым не горшы, — адказала Ніна Леанідаўна. — Хіба толькі тым, што Алёна разумніца і выдатніца, а ты... — яна зрабіла паўзу і нехта дадаў:

— А ты дурніла і двоечнік.

Ізноў усе ўзрадаваліся.

— Не, — не пагадзілася Ніна Леанідаўна. — Міша хлопец разумны. Проста мала ўвагі надае хатняй падрыхтоўцы. Занадта шмат займаецца спортам.

У многіх настаўнікаў ёсць мянушкі, прычым, даволі просценькія, настаўніца хіміі — хіміца, фізікі — фізіца, і гэтак далей. А вось у нашай класнай Ніны Леанідаўны мянушкі няма, так і завём яе — «класная». Яна не злосная. Вясёлая. У яе ёсць пачуццё гумару. Калі расказаць ёй анекдот пра настаўнікаў, яна не крыўдзіцца, а смяецца. Увогуле, класная — класная.

— Гэта ён да славы рвецца, — сказаў Юра. — Як праславіцца на ўроках? Ніяк. А вось спорт — гэта іншая справа. А калі ў касманаўты праб’ецца... Тады ўвогуле. Радавацца будзем, што ў адну школу хадзілі. Ніхто тады пра яго двойкі-тройкі не ўспомніць.

— У касманаўты, аднак, з тройкамі не возьмуць, — сказала Ніна Леанідаўна. — У космасе шмат што трэба і ўмець, і ведаць.

— А я падцягнуся! — гыркнуў Мішка. У нас ва ўсіх мяняюцца галасы, а Мішка то пішчыць, як дзяўчынка, то гырчыць, як тыгр. — Мне ў космас трэба абвязкова. Мне без космасу жыцця няма.

— Усё ў тваіх руках, — адгукнулася Ніна Леанідаўна.

Самае цікавае, што ўжо на наступны дзень Мішка па матэматыцы атрымаў сямёрку, — адзнаку, якая раней магла яму толькі прысніцца. Яшчэ праз дзень сямёрку па фізіцы. А вось па геаграфіі атрымаў кол. І па гісторыі кол.

— Як так, Міша? — спытала Ніна Леанідаўна.

— Няма калі мне іх вучыць, — змрочна адказаў ён. — Мне патрэбны дакладныя навукі, добрае здароўе, а гісторыя з геаграфіяй...

Што ж, ёсць свая праўда ў яго словах. Вось толькі на наступны дзень ён і па матэматыцы атрымаў кол.

Сэрца — сэрцам, але ў дадатак Пельмень намаляваў у альбоме Алёнчын профіль. Алёнка ўбачыла і павяла плячамі.

— Рафаэль, — з насмешкай сказала яна.

— Сальвадор Далі, — дадаў Юра.

Пельмень пакасіўся на іх, але нічога не сказаў. Хутчэй за ўсё, не ведаў, хто такія Рафаэль і Далі.

— Будзеш вялікім мастаком, — сказала Алёнка. Было відаць, што хаця партрэт

ёй не спадабаўся, сама ідэя прыйшлася да душы.

— Не трэба мне гэта, — адказаў ён. — Не цікава. Хачу ў космас. Ці ў авіяцыю.

— Ні ў лётчыкі, ні ў касманаўты цябе не возьмуць: ужо ўсіх перарос, — сказаў Юра. — Не памесцішся ў кабіне. Ні ў які скафандр не ўлезеш. Для цябе касмічны карабель трэба рабіць па спецыяльным заказе.

Пельмень засумаваў, што праўда, то праўда, мінулым летам яго так пагнала ў рост, што будучыня стала няяснай. Аднак доўга сумаваць ён не ўмеў.

— Яшчэ добра — капітанам ледакола, — успомніў і ажывіўся ён. — Белыя мядзведзі, паўночнае ззянне... Прыгажосць!

Канешне, здорава. Зіхацяць ільдзіны ці бушуюць хвалі, а ты стаіш на капітанскім мосціку ў параднай форме з пазалочаным корцікам на баку.

Увогуле, расчараваць у жыцці Пельменя немагчыма. І на самай справе, варыянты заўсёды знойдуцца.

Юра — хлопец стрыманы, утойлівы. Ён не стане маляваць графіці, не пакажа, што там у яго альбоме, не прызнаецца ў пачуццях. Але ж я ведаю, што Алёнка яму моцна падабаецца: не-не, ды і паверне галаву да яе. Акрамя таго, на кожным уроку стаў цягнуць руку, думаю, каб зрабіць на яе ўражанне. Аднак сказаць, што Алёнка гэта заўважыла, не скажаш. Можа быць, яна нават не задаволена, паколькі сама любіць адказваць з месца. Акрамя таго, Юрка любіць прыдумваць што-небудзь смешнае. І каго хочаш падыме на смех. Нават Алёнку не пашкадуе, калі прыйдзе на розум. Таму ўсе яго пабойваюцца, нават болей, чым Мішынага кулака. Гэта ж ён назваў Мішку «Пельменем», а Алёнку «Прынцэсай-на-бульбіне».

Калі настаўнік задае прамое пытанне, каб хтосьці адказаў з месца, усе вядуць сябе па-рознаму. Нехта ледзьве не пад парту лезе, каб не выклікалі, хтосьці робіць такі разгублены выгляд, быццам вырашае сусветную праблему і трывожыць яго нельга, хтосьці напружваецца — вось-вось лопне... Вельмі любіць адказваць з месца Пельмень, ускоквае, цягне руку — нават калі не ведае адказ. Гэта значыць, яму здаецца, што ён ведае. І моцна здзіўляецца, калі яго выклічуць, а ён — не ведае.

Алёнка наадварот: паставіць руку перад сабою на парту і спакойна чакае. Калі б не павярнуўся да яе, заўсёды чакае. Шмат хто, у тым ліку і я, перажываюць, калі не вызавуць («Эх, я таксама ведаў! Эх!»), а Алёнка сядзіць спакойна: яе «дзясятачка» ад яе нікуды не ўцячэ. Калі б я маляваў яе партрэт, так бы і выявіў: разумненькая такая і прыгожанькая. Заўсёды з паднятай рукой.

Я не ведаю, закаханы я ў Алёнку ці не. Мне таксама прыемна глядзець на яе, чуць яе голас, але хадзіць за ёй следам я не згодны. Неяк я ёй прама прапанаваў:

— Давай сябраваць, Алёнка!

А яна сказала:

— Андрэйка, я ўжо сябрую з адным хлопчыкам з 51 школы.

— Сябруеш? Нешта я не заўважаў.

— А мы па тэлефоне сябруем. Няма часу сустракацца.

Па тэлефоне? Ну, гэта не лічыцца, — рашыў я, аднак болей прапаноўваць сяброўства не стаў.

Школа наша размешчана ў прыгожым месцы: побач возера, парк. Туды мы і ходзім на ўрокі фізкультуры. Усе мы нядрэнна бегаем, скачам, але Пельмень тут усім дае фору. Што вырабляе — не расказаць. То залезе на турнік-перакладзіну і крутане «сонейка», то зробіць сальта на бервяне, то пранясецца, як дзікі мустанг. Пры гэтым з крыкам — толькі б заўважылі, які ён малайчына, але настаўнік фізкультуры Яўген Іванавіч, па мянушцы «Гіра», глядзіць на яго з неспакоем: разаб'е галаву, пасля

за яго адказвай. Гіра — чэмпіён рэспублікі па гіравому спорту, адсюль і прозвішча. Да дзяўчынак адносіцца паблажліва, а нас ганяе да сёмага поту і крычыць дзікім басам: «Як ты РРРадзіму будзеш абараняць?» Хаця і дзяўчынкам дастаецца.

Часам на ўрокі фізкультуры прыходзіць дырэктар школы. Мне здаецца, што ўсіх нас ён не тое каб не любіць, але дрэнна пераносіць. Глядзіць падазрона і заўсёды хмурыцца, быццам мы яму сапсавалі настрой ці ў яго пякотка. А вось Пельменя паважае і нават, магчыма, любіць. «Жыццё ваша пройдзе, як прайшлі Азорскія астравы, — неяк не зусім зразумела сказаў ён, — а вось Пельмень калі-небудзь праславіць нашу школу». Мы, зразумела, грымнулі, не трэба дырэктару называць Мішку Пельменем. Але дырэктар не зразумеў, ад чаго мы грымнулі. А Пельмень — нічога, нават з вялікім гонарам паглядаў на ўсіх і, канешне ж, на Алёнку. Маўляў, слухай разумных людзей, а то пашкадуеш. Мы з Юрам таксама няблага бегаем і скачам, але да Пельменя нам далёка.

Дзяўчынак у класе роўна палова, у іх крыху іншыя заданні, і вось тут Алёнцы пахваліцца няма чым. Не, нарматывы яна выконвае, але да дзясяткі, нават да дзявятачкі ніяк не дацягнецца. На фізры яна заўсёды моцна расстройваецца, чырванее, як мак, ледзьве не слёзы на вачах, бо не першая, нават шкада яе. Так што, чэмпіёнкай яна, хутчэй ўсяго, не стане. «Не перажывай! — гаворыць ёй Пельмень. — Я цябе натрэніірую!» Але Алёнка і слухаць не хоча. Марыць, каб хутчэй закончылася фізкультура і — за парту. За партай яна як рыбка ў вадзе.

Тым не меней, Алёнка пачала хадзіць на секцыю мастацкай гімнастыкі, відаць, хоча ўсім даказаць, а можа, нават стаць чэмпіёнкай.

Сам Яўген Іванавіч не бегае з намі, стаіць, назірае, але часам пад канец урока таксама скочыць на перакладзіну і такое выдасць… Глядзець страшна. І вельмі задаволены вяртаецца з намі ў школу. Маўляў, вось так, слабакі і дэгенераты…

Раптам мы заўважылі, што Пельмень засумаваў. На перапынках моўчкі сядзіць у класе, на ўроках задумваецца так, што не чуе ні настаўнікаў, ні вучняў, у школу ходзіць адзін і вяртаецца дахаты адзін.

— Што гэта з Пельменем? — спытаўся аднойчы пры ўсіх Юра.

— Як што? — адказалі дзяўчаты і захіхікалі. — Непадзеленае каханне.

Пельмень хлопец не з крыўдлівых. Аднак, калі пастаянна калашмаціць яго — з гумарам ці без гумару, гэта можа скончыцца дрэнна. Карацей, Юра і Мішка пабіліся. Спярша, як гэта бывае звычайна, адзін штурхнуў, другі адказаў, пасля паўтарылі, пасля… Увогуле, у аднаго з носа пацякла юшка, у другога засвяціўся пад вокам ліхтар.

— Мала? Дадам!

— Ты спярша юшку падатры!

— А ты ліхтар выключы!

— А ты…

— Ты…

На гэтым бы ўсё і скончылася, але тут з'явілася Алёнка.

— Хлапчукі, вы што?

— Гэта яны з-за цябе, — патлумачылі дзяўчынкі.

— З-за мяне? — здзівілася яна. — Чаму з-за мяне?

— Закахаліся.

— Фу, — адгукнулася на гэта Алёнка, — не хапала. Вы спярша па матэматыцы і па мовах падцягніцеся.

У Папуа-Новай Гвінеі афіцыйная мова — англійская, але на ёй размаўляе толькі 2 працэнты насельніцтва. Астатнія размаўляюць на мясцовых 820-ці мовах.

Ну, Алёнка ёсць Алёнка. Што ёй пачуцці, ёй галоўнае — паспяховасць, а ў іх ёсць праблемы. У Мішкі матэматыка моцна кульгае, Юра кульгае па ўсіх мовах.

— Кавалеры няшчасныя.

Толькі яна гэта сказала, як раптам — хрумсь! хрумсь!

Гэта яны зноўку счапіліся.

— Якія ж вы дурні, — сказала Алёнка і, павярнуўшыся, адправілася атрымліваць свае дзявяткі і дзясяткі.

Тады і Мішка з Юркам супакоіліся.

— Ну, хопіць! — сказала неяк Алёнка. — Не хачу быць болей прынцэсай. Хачу быць, як усе.

Усмешка ў яе, канешне ж, прыгожая. Юрка сказаў — прынцэсная. У апошні год у яго ўдасканалілася пачуццё гумару. Над усімі ён цяпер пасмейваецца, нават нада мной.

— Як усе — не выйдзе, — сказаў ён. — Гэта ўжо ад цябе не залежыць. Ты такой нарадзілася. Быць табе прынцэсай усё жыццё.

— Але ж я не хачу! — абурылася Алёнка.

Аднак абурылася яна знарок. На самай справе быць прынцэсай ёй вельмі падабаецца. Ды і каму не спадабаецца? Нават тыя, хто яе не ведаюць, охаюць ды ахаюць: што за дзяўчынка? Проста прынцэса.

— Ты не хочаш, а нам трэба, — сказаў Юрка.

— Навошта?

— Вельмі проста, у іншых школах няма прынцэс, а ў нас ёсць. Ты наша славутасць. Хутка мы будзем паказваць цябе турыстам. Бізнес зробім. Білеты на цябе будзем прадаваць.

На такую заяву Алёнка пакрыўдзілася ўсур'ёз.

— Гэта цябе з Сідарчуком трэба паказваць, — сказала яна, і ўсмешка знікла з твару. — Вы таксама славутасць.

Алёнка мела на ўвазе той выпадак, калі Юрка пабіўся з Мішкам і зарабіў два ліхтары.




— Я не супраць, — адказаў ён. — Слава — справа добрая. Але да прынцэсы-на-бульбіне мне далёка.

На асенніх канікулах у школе абвясцілі спаборніцтвы па шахматах. Запісаліся амаль усе, нават Пельмень.

— Праўда, я забыўся, як конь ходзіць, — сказаў ён. — І ферзь. А гэтая фігура як называецца?

— Слон, — сказаў Юра.

— А гэтая?

— Гэта пешка.

— Сапраўды, пешка! — здзівіўся Пельмень. — Я ўсё ведаю, проста забыўся.

— Не трэба табе гуляць, — сказаў Юра. Яны даўно ўжо паміryліся. — Лепей я цябе спачатку патрэнірую.

— Ты? Мяне?

Справа ў тым, што Юра гуляе ў шахматы ўжо даўно і нават ходзіць у секцыю шахмат. І па чутках у секцыі гэтай ён першы.

— Сам патрэніруйся! — абурыўся Пельмень.

— Ну, як знаеш!

Спаборніцтвы ішлі па класах. І раптам высветлілася, што Юры сярод васьмікласнікаў няма. Ён запісаўся да адзінаццатага класа.

— Ну, глядзі, — сказаў Яўген Іванавіч, які арганізоўваў спаборніцтвы. — Праляціш.

Жадаючых гуляць аказалася шмат, а балельшчыкаў — процьма. За кожным сталом — натоўп. Яшчэ болей было тых, хто нічога не разумеў у шахматах і прыйшоў проста паглядзець.

— Ну што? — перад пачаткам спаборніцтваў спытаў Яўген Іванавіч Юру. — Не перадумаў? Яшчэ не позна.

— Не перадумаў!

— Ох, праляціш…

Але Юра не праляцеў. Наадварот, усіх парваў, разграміў, прычым — малой крывёй. Не прайграў ніводнай партыі, толькі дзве ці тры звёў да нічыёй. Спаборніцтвы пачаліся пасля ўрокаў у панядзелак і доўжыліся ўвесь тыдзень. Яўген Іванавіч вывесіў у калідоры графік, і цяпер перад ім на кожным перапынку стаяў натоўп. Нават дырэктар падоўгу вывучаў яго і прыгаворваў:

— Так-так… Цікава… Так-так… Няўжо… Гм-гм…

Закончыліся спаборніцтвы ў панядзелак, і ўсіх сабралі ў вялікай актавай зале школы.

Так, Юра аказаўся першым, прычым, з вялікім адрывам.

— Вось хто праславіць нашу школу! — сказаў дырэктар.

Кожную секунду Сонца выкідвае ў космас 1 мільён розных рэчываў, у Зямлю б'е 100 маланак, а ў кожнай клетцы чалавечага арганізма адбываецца 100 тысяч хімічных рэакцый.

Гэта была яго любімая фраза, яго надзея. Здавалася, ён нічога не хацеў, ні пра што болей не марыў.

Сапраўдны гром стаяў ад воплескаў і свісту. Дырэктар доўгаціснуў руку Юру, а пасля яшчэ і абняў. Між іншым, Мішка-Пельмень, які прайграў усе партыі, пляскаў і свісцеў мацней за ўсіх. А Алёнка стаяла моўчкі, але была чырвоная, як мак. Можа быць, яна таксама была закахана ў яго?

А Пельмень сказаў:

— Не, шахматы — гэта не маё. Сядзіш дзве гадзіны, сядзіш… Мазгі мучаеш… нецікава. Футбол — вось гульня!

У кожнага чалавека ёсць нейкая тайна, і кожнаму хочацца падзяліцца ёю. Спытаецеся — навошта? Жыў бы са сваёй тайнай адзін на адзін… Не. Хочацца абвясціць усяму чалавецтву ці хаця б аднаму чалавеку: вось я і вось мая тайна! Логіка, напэўна, простая: тайна адпавядае асобе. Цікавая тайна — цікавы і чалавек. Хаця, хутчэй за ўсё, проста няма моцы маўчаць.

Відаць, таму Пельмень аднойчы сказаў мне: «Якая яна прыгожая!..» Ясна, пра якую тайну ён павёў гаворку. Пра Алёнку. «Добрая Маша, ды не наша…», — хацелася мне адказаць яму. Але чаму ён выбраў мяне для прызнання? Відаць таму, што адчуў: я не буду смяцца над яго пачуццямі. «А якая вясёлая, разумная… — працягваў ён. — А памятаеш як яна танцавала?» Гэта так, танцавала яна не горш, чым… Ну, не ведаю, як па мне, дык і параўнаць няма з кім. «А помніш, як яна з абручам выступала на спаборніцтвах? А з лентамі?.. Як гэта ўсё ў яе атрымліваецца?..»

Ужо не проста смутак прагучаў у яго голасе, а — адчай. І мне гэта зразумела: яна і прыгожая, і таленавітая, і спартыўная — столькі ў яе годнасцей, што проста невыносна ні глядзець на яе, ні думаць пра яе. Хаця, калі па праўдзе, у секцыю яна пачала хадзіць нядаўна і з абручам і лентамі выступала не вельмі… Але чым я

мог дапамагчы Мішку, як развесці яго сум? Сам, што ні кажы, грэшны, і мне таксама хочацца расказаць чалавецтву, якая яна прыгожая, разумная, таленавітая…

Між іншым, не ўсё ўжо так ідэальна ў Алёнкі. Ёсць і ў яе праблемы. Напрыклад, з музычным слыхам. Спяваць яна не ўмее і не спрабуе. Апошні раз спявала ў чацвёртым класе, калі настаўнік спеваў — Пенік — прапанаваў спець гаму до мажор.

Ён быў цікавы гэты настаўнік. Мы нават прыдумалі пра яго вершык:

Хто ўлятае ў клас як венік?
Ну, канешне, гэта Пенік!

Валасы ў яго насамрэч, як лахматы венік: кучаравыя і ва ўсе бакі. Урок спеваў любілі ўсе, вельмі нядрэнны адпачынак, ды і Пенік не шкадаваў, усім ставіў васьмёркі-дзявяткі-дзясяткі, нават Алёнцы. Справа ў тым, што калі для большасці ўрок спеваў — чысты адпачынак, то для яе — пакуты і сорам. Канешне, Пенік і ёй ставіў дзявяткі, але Алёнка ведала кошт такім адзнакам і сядзела, не падымаючы прыгожых вачэй. Але цяпер такога ўрока няма, і ўсе забыліся на тыя праблемы. Цяпер яна, як сказаў Юрка, дзяўчынка-без-праблем.

У нашым класе бяда. У Каці Ахрэмавай памерла маці. Яна доўга хварэла, мы ведалі пра гэта, але, здавалася, хутка вылечыцца. І раптам — такая вось сумная навіна. Кожны, напэўна, падумаў пра сябе і сваю маму. А яшчэ ўчора здавалася, што мы і нашы блізкія будзем жыць заўсёды, вечна. Каці не было ў школе тры дні. А калі прыйшла, адразу ж села за парту, ні на каго не паглядзеўшы, і ў класе стала ціха. Празвінеў званок, увайшла Ніна Леанідаўна, правяла далонню па яе галаве. Здавалася, Каця вось-вось заплача.

Не, яна вытрымала.

Першыя дні настаўнікі Кацю не турбавалі. Але дні праз тры Ніна Леанідаўна выклікала яе па хатнім заданні і, хаця Каця адказвала сярэдне, пахваліла і паставіла ёй дзявятку. Мы, канешне, усё зразумелі і парадаваліся за яе.

Яна, Каця, добрая. Вось толькі занадта ціхая. А пасля смерці мамы, яе зусім не відаць. Але яна тут, з намі. З цікавасцю глядзіць, як мы на перапынках носімся па класе і калідорах, усміхаецца, калі хтосьці прыдумае нешта смешнае і вясёлае, але сама ўдзелу не прымае. Канешне, павінна прайсці нямала часу, перш чым яна прызвычаіцца да новага свайго жыцця.

Каця вучыцца нядрэнна, але па матэматыцы кульгае. Наша матэматыца, праверыўшы хатнія заданні, сшытак яе амаль заўсёды перадае Юру і кажа: «Растлумач Каці». Ну, а Юра вельмі любіць тлумачыць. Калі ж выклікае Кацю да дошкі і яна адказвае блытана, зноў звяртаецца да Юры: «Падкажы». Падказваць Юра любіць, здаецца, яшчэ болей, чым тлумачыць. І так амаль кожны дзень. Можа, Каця падабаецца яму? Вось і азірацца на Алёнку ён перастаў… Каця, здаецца, адзіная ў класе, каму ён не прыдумаў мянушку. Але, канешне, прыдумае. Юра такі.

*Заканчэнне ў наступным нумары*

***Алег ЖДАН***
***Пераклад з рускай Алеся КАРЛЮКЕВІЧА***
***Малюнкі Ганны БАРЫСАВЕЦ,***
***10 клас, гімназія № 1, Слуцк***

***Алег Ждан — пісьменнік, які піша і для дарослых, і для дзяцей. Нядаўна ў «Выдавецкім доме «Звязда» выйшлі дзве яго дзіцячыя кнігі: «Праздник продолжается, или Щенок, велосипед и шишка на лбу» і «Приключения тритэшек в Беларуси». Аповесць «Прынцэса» — чарговы яго твор для падлеткаў.***




# Садоўнік і сад

*Для малодшых брата і сястры*

Маліна прачнулася зусім рана і адразу пачала шукаць Садоўніка. Яна здзівілася: чаму да гэтага часу яго не відаць? Ці не захварэў?

Калі хто і ведае, дзе Садоўнік, то гэта дакладна Сіні Матылёк. Ён час ад часу аблятае ўвесь сад. Таму Маліна з нецярпеннем пачала чакаць ўзыходу Сонца і прылёту Матылька.

Як толькі ўзыйшло Сонца, з'явіўся Матылёк і важна абляцеў кожную кветачку. А як толькі сеў на лісток Маліны, дык адразу паведаміў, што Садоўнік захварэў.

Гэту непрыемную вестку пачуў Вятрыска. І адразу ж разнёс навіну ва ўсе бакі.

Садоўнік непакоіўся пра кожную расліну ў садзе, даглядаў і песціў кожную ягадку, кожны плод. І таму вестачка пра яго хваробу засмуціла ўсіх.

Насельнікі саду жадалі дапамагчы Садоўніку.

— Калі ў Садоўніка высокая тэмпература, то мае ягады дапамогуць вылечыцца, аднясі іх яму, — папрасіла Маліна Сіняга Матылька.

Сіні Матылёк так і зрабіў. Сарваў жменьку духмяных малінавых ягад і паляцеў. Прыляцеўшы да Садоўніка, Матылёк перадаў яму прывітанне і падарунак ад Маліны. Удзячны Садоўнік выпіў гарбаты з малінай, яму стала лепей, і ён павесялеў.

Сіні Матылёк вярнуўся ў сад, і тут з ім загаварылі яблыні розных гатункаў: «Мы — крынічкі сілы і энергіі, здароўя і маладосці! Калі ласка, аднясіце нашы плады да Садоўніка. І мы падсілкуем яго».

Сіні Матылёк паслухмяна аднёс яблыкі. Садоўнік пакаштаваў яблыкі, якія сам выгадаваў, і адчуў прыліў сілы. А Матылёк сарваў гронку вінаграда і ізноў прыляцеў да Садоўніка. Нястомны, ён прыносіў Садоўніку па чарзе кавуны і дыні, памідоры і агуркі.

Садоўнік радаваўся ўсяму, што так клапатліва дастаўляў яму Матылёк.

З дня ў дзень яму станавілася лепей, і ён паступова вылечваўся.

Аднойчы Сіні Матылёк сустрэў у садзе працалюбівую Пчалу, якая няспынна збірала нектар з садовых кветак. Сіні Матылёк прынёс Садоўніку мёд, які даслала Пчала.

Садоўнік папіў гарбаты з мядком і канчаткова набраўся моцы. Ён быў вельмі ўдзячны Пчале, якая збірала мёд, і Матыльку, які прынёс яму гэтыя лекі.

Так Садоўнік вылечыўся пладамі, што раслі ў яго ўласным садзе. А вырасціць плады, ягады і гародніну яму дапамаглі праца і дабрыня.

У хуткім часе Садоўнік вярнуўся ў свой сад. Там яго сустрэў добры і міласэрны Сіні Матылёк. Ён шчасліва пархаў і стараўся сесці то на галаву, то на плячо Садоўніку.

Сад агортвала прахалода ранішняга ветрыка і Садоўніка, калі ўглядаўся ў клапатліва выпеставаныя ім рознакаляровыя кветкі, плады, ягады, гародніну, ахінала пачуццё гонару і радасці.

А сад радаваўся яму...

***Райхан МАЖЭНКЫЗЫ***
***Пераклад з казахскай***
***Алеся КАРЛЮКЕВІЧА***



# Рабчыкі

*Так ісці на захад, гэтак перці*
*За эпоху можна толькі раз.*
*Есці захацелася да смерці,*
*Ну, а повар з кухняю заграз.*

Памятаеш, дружа, «Бульбу» Панчанкі? Калі не, то знайдзі і прачытай. Што б ты рабіў у такой сітуацыі? Байцы *падцягнулі рамяні з тугою, леглі адпачыць пад сіняй хвояй, на сухой абочыне шашы.* Але які там адпачынак — кішкі марш іграюць. Ну і вось…

*Спрэчка пачалася нечакана:*
*Што смачней з усіх вядомых страў?*
*«Хаш і лобі! — першым крыкнуў Вано, —*
*Я б сем місак зараз увабраў».*
*«Плоў, — сказаў Ахмет. — Калісьці*
*дома…»*
*І пацмокаў смачна языком.*
*А Гурген ускочыў: «Вы знаёмы*
*З ерэванскім сочным шашлыком?»*

Хіба беларусу магчыма пры гэтым уседзець?! Наш герой усхапіўся — і прарэкламаваў найперш бульбу з селядцом. А потым…

*«З нашай бульбы тысячу, не меней,*
*Смажаць і гатуюць розных страў...»*
*Я ўсхапіўся з месца і з натхненнем*
*Песню ім пра бульбу праспяваў.*
*Бачу: праняла мая прамова,*
*Зараз крыкнуць: «Дзе яна? Гарні!»*
*...Добра, што пад’ехаў ротны повар*
*На рудым запараным кані.*

Што згатуем з бульбы, дружа, каб панчанкаўскі верш дэкламаваць выразна і з веданнем справы? Самае проста — рабчыкі!

***Што спатрэбіцца:***

**12 бульбін аднаго памеру,**
**1 ч. л. алею,**
**каменная соль**

***Як гатаваць:***

Бульбінкі абабраць, змазаць алеем і выкласці на патэльню, таксама змазаную алеем. Трымаць у гарачай духоўцы да ружовых скарыначак, падаўшы на стол, пасыпаць буйнай — «слёзкамі» — соллю.

Смачна есці!

# Бярозка

Я ❤ ганарыцца сваім

*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для школьнікаў)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».





Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.
Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@mail.ru
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74879 — льготны
74822 — індывідуальны
748222 — ведамасны

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. АЎЛАСЕНКА
Рэдактар:
К. В. ЗАХАРЭВІЧ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. КІРЭЕНКА
Камп'ютарны набор:
А. Г. КАХНОЎСКАЯ
Стылістычны рэдактар:
К. С. ГОЛУБ

Падпісана ў друк .05.2015 г.
Фармат 60х84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. .
Тыраж 1116 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 15 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск






**Клуб сяброў часопіса**:
*Фарміруецца з кожным нумарам, складаецца са школ аўтараў (вучняў, бацькоў і настаўнікаў), а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў.*
Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў, Бараўская СШ (Дзяржынскі раён), Гудагайская СШ (Астравецкі раён), Дворнасельская СШ (Міёрскі раён), Ждановіцкая СШ (Мінскі раён), Залеская СШ (Чачэрскі раён), Калодзішчанская СШ (Мінскі раён), Мар'інагорская гімназія, гімназія № 2 (Вілейка), гімназія № 1 (Свіслач, Гродзенская вобласць), гімназія № 1 (Чэрвень), Міханавіцкая СШ (Мінскі раён), Сапоцкінская СШ (Гродзенскі раён), Чапукоўская СШ (Міёрскі раён), СШ № 12 (Гродна), СШ № 1 (Докшыцы), Параф'янаўская СШ (Докшыцкі раён), СШ № 1 (Глыбокае), СШ № 1 (Ельск), СШ № 34 (Мінск), СШ № 129 (Мінск), СШ № 136 (Мінск), СШ № 165 (Мінск), СШ № 201 (Мінск), СШ № 207 (Мінск), гімназія № 1 імя Ф. Скарыны (Мінск), гімназія № 10 (Мінск), гімназія № 11 (Мінск), гімназія № 29 (Мінск), гімназія № 30 (Мінск), гімназія № 75 імя П. Масленікава (Мінск), СШ № 9 (Маладзечна), гімназія № 10 (Маладзечна), СШ № 3 (Пружаны), Пружанская гімназія, СШ № 25 (Мінск), Пагосцкая СШ (Салігорскі раён), Коханаўская СШ імя І. П. Кажара (Талачынскі раён), СШ № 1 (Пінск), Гарадзішчанская СШ (Пінскі раён), ліцэй № 1 (Мінск), ліцэй № 2 (Мінск), гімназія № 35 (Мінск), гімназія № 16 (Мінск), СШ № 15 (Баранавічы), СШ № 38 (Мінск), Зажэвіцкая СШ (Салігорскі раён), СШ № 20 (Мінск), СШ № 10 (Барысаў), Асіповіцкая гімназія.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак вучаніцы Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў  Аляксандры Камянец.*




***

***Сын усё не засынаў і бацька, сеўшы побач на ложак, пачаў чытаць яму казкі. Праз паўгадзіны маці прыадчыніла дзверы і запыталася шэптам:***

***— Ну што, заснуў?***

***— Так, мама, заснуў! — шэптам адказаў сын.***

***

— Чаму ты плачаш?

— Ды старэйшы брат сабе па пальцы малатком патрапіў!

— Дык ты чаму плачаш?

— Таму што засмяяўся!

***

***Бацька пытаецца ў сына:***

***— Ну, як твае справы ў школе.***

***— Ды дрэнна там усё! — адказвае сын. — Настаўніца ўвесь час нам пытанні задае. То адно, то другое… Напэўна, сама нічога не ведае!***

***

— Вовачка, ты зноўку спісаў кантрольную ў Машы!

— А як вы здагадаліся, Марыя Іванаўна?

— На апошняе пытанне яна шчыра напісала: «Я не ведаю». А ты напісаў: «Я таксама».

***

***— Які смелы ўчынак вы здзейснілі за сваё жыццё?***

***— Аднойчы, калі вучыўся ў школе, я на алгебры сам узняў руку.***

***

— Скажыце, калі я пайду направа, там будзе вакзал?

— Ён там будзе, нават калі вы туды не пойдзеце.

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Якому насякомаму ўвесь свет апладзіруе?

**2.** Наколькі глыбока можна ўвайсці ў лес?

**3.** Калі вы глядзіце на змяю, як даведацца: самка гэта ці самец?

**4.** Варона ляціць, а на хвасце сабака сядзіць. Ці магчыма такое?

**5.** Па ёй ходзяць, нават бегаюць, але не ездзяць. Што гэта?

**6.** Без чаго нельга спячы хлеб?

**7.** Яго можна і даць, і адначасова трымаць. Што гэта?

**8.** Якое слова заўсёды гучыць няправільна?

**9.** У моры не водзіцца, у печку ўваходзіць, у хляве не змяшчаецца, а ў кошык аж два ўлазіць. Што гэта?

**10.** Калі суткі карацейшыя: зімой ці летам?

## Падарунак ад Вожыка




Мастак Алег КАРПОВІЧ

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Молі.
2. Да сярэдзіны, бо потым будзеш ужо з лесу выходзіць.
3. Калі яна папаўзла, то гэта самка, а калі папоўз — гэта самец.
4. Магчыма, бо сабака сядзіць на сваім хвасце.
5. Лесвіца.
6. Без скарынкі.
7. Слова.
8. Слова «няправільна».
9. Літара «к».
10. У сутках заўсёды 24 гадзіны.

*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# СЯДЗІБА БОНЧ-АСМАЛОЎСКІХ У БЛОНІ

*Макет рэканструкцыі сядзібы Бонч-Асмалоўскіх у Блоні (Пухавіцкі раён). Аўтар Тацяна Брындзікава, 11 клас. Кіраўнік Тацяна Васільеўна Вайтэнка.*









ISSN 0320-7579




Гэта сядзіба ў Блоні — фамільнае гняздо Бонч-Асмалоўскіх, вядомых ад 1512 года і да сёння не толькі ў Беларусі і Расіі, але і ў Германіі, ЗША і Канадзе, — існуе з сярэдзіны XIX стагоддзя. Пабудавана з дрэва на каменным цокалі ў стылі позняга класіцызму. Цяпер у гэтым прыгожым будынку з беласнежнымі слупамі і чароўнымі разнымі вокнамі месціцца краязнаўчы музей. Значнае месца ў яго інтэр'еры і экспазіцыях адведзена былым гаспадарам, а таксама іх продкам і нашчадкам.